PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 26 (2198) Год XLIII Беласток 28 чэрвеня 1998 г. Цана 1 зл.

## Рэзультаты гайнаўскага пратэсту

— Вялікае ўражанне ў Міністэрстве транспарту зрабілі 7 тысяч подпісаў, якія сабралі мы ў падтрымку пратэсту супраць ліквідацыі пасажырскага чыгуначнага транспарту на Гайнаўшчыне, — гаворыць Яўген Сачко, старшыня пратэстацыйнага камітэта. — Пры канцы мая мы атрымалі ліст з Міністэрства транспарту, у якім інфармавалі, што да мая наступнага года транспарт будзе захаваны, а пасля зноў будуць размаўляць з самаўрадамі.

Калі ўжо ў Гайнаўку прыйшоў згаданы ліст, прадстаўнікі гайнаўскага пратэстацыйнага камітэта паехалі ў дырэкцыю Польскай дзяржаўнай чыгункі, каб вырашыць справу пасажырскага транспарту на наступныя гады.

— У дырэкцыі чыгункі мы яшчэ раз выслухалі, што пасажырскі транспарт на Гайнаўшчыне нерэнтабельны і праз год думаюць зноў выступаць у Міністэрства транспарту з прапановай ліквідацыі нашых пасажырскіх перавозаў, — расказвае Яўген Сачко. — На месцы высветлілася аднак, што шлях з Семяноўкі ў Чаромху стратэгічны з пункту гледжання дзяржавы, хіба з прычыны небяспечнага транспарту, і фінансаванне ўсяго абслугоўвання ідзе з дзяржаўнага бюджэту. 7 тысяч подпісаў зрабіла вялікае ўражанне і на дырэкцыі чыгункі, таму і прапанавалі яны, каб прад'явіць іх, калі будуць весціся размовы паміж Міністэрствам транспарту і дырэкцыяй чыгункі. Прадстаўнікі чыгункі прапанавалі таксама, каб самаўрады часткова фінансавалі пасажырскія перавозы.

Значыць, вырашэнне спраў чыгункі вакол Гайнаўкі адтэрмінавана на год, а пакуль што трэба збіраць сілы. Аказваецца, што пратэст гайнавян афіцыйна падтрымала таксама Міністэрства аховы асяроддзя, якое ў сувязі з аховай Белавежскай пушчы выступіла з просьбай ў Міністэрства транспарту не закрываць пасажырскі транспарт у прыпушчанскіх вёсках. Абяцанні падтрымкі ў справе чыгункі гайнавяне атрымалі таксама ад Міжнароднай канферэнцыі „У супольную будучыню", што праходзіла ў Гайнаўцы і ад Таварыства „Прыбліжэнне", галоўнага арганізатара канферэнцыі.

— Зараз чакаем сустрэчы ў Міністэрстве транспарту. Камітэт надалей будзе змагацца за захаванне чыгункі каля Гайнаўкі і думаю, што грамадская падтрымка дазволіць яе абараніць, — заяўляе Яўген Сачко. — Карыстаючыся нагодай, хачу ад імя Камітэта падзякаваць усім тым, якія склалі подпісы, збіралі іх і памагалі нам у працы, што паўплывала і на актыўнасць нашых самаўрадавых улад, і на пастанову Міністэрства транспарту.

**Аляксей Мароз**



*Старшыня Камісіі Яцак Курань і міністр Іаанна Внук-Назарова са спявачкамі з Арэшкава.*
Фота Сяргея ГРЫНЯВІЦКАГА

# Курань сярод беларусаў

**У днях 19—21 чэрвеня адбылося выязное пасяджэнне сеймавай Камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей. Мэтай прыезду парламентарыяў на Беласточчыну было азнаямленне з праблемамі беларусаў на месцы. Парламентарыі з Яцкам Куранем на чале і ў суправаджэнні міністра культуры і мастацтва Іаанны Внук-Назаровай наведалі Гайнаўку, Бельск, Супрасль і Беласток ды пабывалі на Свяце беларускай культуры. Пасяджэнне сеймавай Камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей, якое адбылося 19 чэрвеня ў Гайнаўскім белліцэі, тычылася праблем асветы, культуры і грамадскага жыцця беларускай меншасці ў горадзе і гміне Гайнаўка.**

### У Гайнаўцы

Яшчэ перад пасяджэннем Камісіі паслы наведалі школы ў Ласінцы і Дубінах, дырэктары якіх звярталіся з просьбай падтрымаць фінансава пабудову новых школьных будынкаў.

На сустрэчу ў белліцэй прыйшлі настаўнікі, бурмістр Гайнаўкі, войты суседніх гмін, радныя, прадстаўнікі розных арганізацый і жыхары Гайнаўкі. Пасяджэнне Камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей узначальваў яе старшыня, пасол Яцэк Курань. Першым у дыскусіі голас узяў пісьменнік Сакрат Яновіч, які гаварыў пра заняпад беларускага школьніцтва яшчэ ў сямідзесятых гадах, звяртаючы ўвагу, што ўсялякае аднаўленне беларускага школьніцтва з'яўляецца толькі утопіяй. Гаварыў ён таксама пра неабходнасць увядзення ў школах Беласточчыны дадатковага прадмета — інтэркультурнае навучанне, на ўроках якога і палякі больш даведаліся б пра сваіх суседзяў беларусаў. Дырэктар Гайнаўскага белліцэя, які з'яўляецца адначасна настаўнікам геаграфіі, гаварыў пра перашкоды, якія стаяць на дарозе да выкарыстання рэгіянальных і беларускіх тэмаў на ўроках геаграфіі. Падкрэсліваў, што неабходнай справай для белліцэяў з'яўляецца ства-

[працяг ☞ 3]

## Хочаце выйграць 500 злотых?

[заглянеце ☞ 11]

## Прыжыццёвы помнік

Да 90-х гадоў пра Барыса Кіта ніхто ў Беларусі не гаварыў, хіба, што свайго настаўніка ўспаміналі вучні. Незалежнасць адкрыла перад беларускімі эмігрантамі магчымасць наведаць бацькаўшчыну. Адным з іх быў Барыс Кіт — таленавіты матэматык, фізік, доктар філасофскіх навук, акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, член шматлікіх навуковых таварыстваў, ганаровы грамадзянін Наваградка.

[кніжка-помнік пра вучонага ☞ 4]

## Алімпіяды і конкурсы

Зацікаўленні ў мяне розныя, таму і прымала я ўдзел у многіх алімпіядах, — гаворыць Анна Васілюк, вучаніца III класа Гайнаўскага беларускага ліцэя. — Аднак найбольшых поспехаў дабілася я на Алімпіядзе беларускай мовы.

[партрэт выдатніцы ☞ 5]

## Смак жыцця, зелле для душы

Душа мая мае быццам два бакі: адзін беларускі, родны, узяты ад маіх продкаў, а другі — набыты, ад Польшчы, ад польскай культуры, — сцвярджае Алена Анішэўская, аўтарка зборніка „Смак жыцця".

[рэцэнзія ☞ 5]

## Манастыр св. Ануфрыя ў Яблачыне

Манастыр св. Ануфрыя ў Яблачыне — найстарэйшы помнік праваслаўя на памежжы Холмшчыны і Падляшша. Пабудаваны ў маляўнічым надбужанскім краявідзе, стаў сёння адным з найважнейшых цэнтраў праваслаўя ў Польшчы. У гэтым годзе манастыр святкуе юбілей 500-годдзя.

[нарыс ☞ 9]

## Крынічка '98

Галоўным арганізатарам фэсту „Крынічка" быў Гайнаўскі аддзел БГКТ, а суарганізатарамі, як паведаміў Міхась Андрасюк, гайнаўскія дзеячы Беларускага саюза ў РП. Было гэта мерапрыемства арганізаванае БГКТ, на якое не прыехала кіраўніцтва Галоўнага праўлення з Беластока.

[інфармацыя ☞ 8]

# Беларусь — беларусы

## Канфлікт

### Амерыканскі пасол да блакады гатовы

Пасол ЗША ў Беларусі Дэніэл Спекхард настолькі ўстрывожаны перспектывай высялення дыпламатычных рэзідэнцыяў з пасёлка Драздзы пад Мінскам, што правёў з гэтай нагоды спецыяльную прэс-канферэнцыю.

Як вядома, беларускія ўлады прапанавалі сп. Спекхарду, а таксама паслам іншых краінаў (Францыі, Германіі, Італіі, Турцыі, Японіі і Расіі) „ачысціць памяшканні" ў сувязі з „запланаваным рамонтам інжынерных сетак". Паслы ў адзін голас абурыліся. Пазаўчора Дэніэл Спекхард, выступаючы перад журналістамі, назваў патрабаванні беларускага боку „яўным парушэннем Венскай канвенцыі аб дыпламатычных зносінах". Нічога дзіўнага: па словах Д. Спекхарда, ЗША патрацілі на сваю рэзідэнцыю ў Драздах 800 тыс. долараў. Пасол папярэдзіў, што заходнія краіны ў адказ могуць прыняць адэкватныя меры ў дачыненні да дыпламатычных місіяў Беларусі. Пасол ЗША ўпэўнены, што асабістае ўмяшанне прэзідэнта Лукашэнкі яшчэ можа прадухіліць канфлікт, які „нанясе велізарную шкоду міжнароднаму іміджу Беларусі".

Па інфармацыі, якая прагучала на прэс-канферэнцыі, з 10 чэрвеня павінен быць спынены доступ транспартных сродкаў у дыпламатычны гарадок у Драздах, — а якраз у гэты дзень да Д. Спекхарда павінны прыехаць у госці ягоныя бацькі. Пасол ЗША кажа, што асабіста ён да блакады гатовы, але „не жадаў бы такога павароту падзеяў".

Праблема высялення паслоў з рэзідэнцыяў трапіла на старонкі замежнай прэсы. У прыватнасці, нямецкая газета „Die Welt" піша, што ЗША могуць нават адклікаць сваіх дыпламатаў з Мінска. Знешнепалітычнае ведамства ў Боне таксама адзначае, што такія паводзіны Беларусі парушаюць венскія дамоўленасці аб абароне дыпламатычных прадстаўніцтваў. Бон намераны адрэагаваць „канкрэтнымі крокамі ў адказ", адзначае газета.

**Алег Груздзіловіч**
*„Свабода" № 61, 10 чэрвеня 1998 г.*

## Дэпутаты прайшліся з плакатамі

Група дэпутатаў Вярхоўнага Савета звярнулася з заяваю да генеральнага пракурора з патрабаваннем вызваліць з-за кратаў дэпутата Андрэя Клімава і іншых палітвязняў.

Арышт Клімава трактуецца дэпутатамі як „яскравы прыклад найгрубейшага парушэння правоў чалавека". Генпракурора Алега Бажэлку дэпутаты папярэджваюць „аб персанальнай адказнасці за саўдзельніцтва ў незаконным арышце і трыманні пад вартай дэпутата парламента, легітымнасць якога прызнаная міжнароднай супольнасцю". Таксама на генпракурора ўскладзена адказнасць „за стан здароўя Клімава, які праводзіць паўторную галадоўку".

Між тым, начальнік СІЗО паведаміў адвакатцы В. Страмкоўскай, што ў сувязі з пагаршэннем стану здароўя Андрэй Клімаў спыніў галадоўку.

Учора група дэпутатаў Вярхоўнага Савета паспрабавала перадаць сваю заяву асабіста генеральнаму пракурору. Аднак на рабочым месцы яго не было, а намеснік пракурора прыняць дэпутатаў адмовіўся, параіўшы аднесці дакумент у канцылярыю, — што і было зроблена. С. Багданкевіч і Л. Грязнова пайшлі ў канцылярыю, а тым часам астатнія дэпутаты (Г. Карпенка, В. Шчукін, П. Знавец і іншыя) стаялі ля пракуратуры з плакатамі „Свабоду дэпутату Клімаву!", „Свабоду дэпутату Кудзінаву!", „Спыніць палітычныя рэпрэсіі!"

Падаўшы заяву, дэпутаты правялі несанкцыянаванае шэсце пад тымі ж лозунгамі. Ад будынка пракуратуры яны прайшлі па ходніках сталічных вуліцаў Інтэрнацыянальнай, Леніна і па праспекце Скарыны да Міністэрства ўнутраных справаў, дзе ўручылі дзяжурнаму копію заявы. Пасля гэтага яны наладзілі на вул. Валадарскага (побач з турмою, дзе трымаюць Клімава) несанкцыяваны пікет. Ніякай увагі на дэпутатаў прадстаўнікі ўладаў не звярнулі.

**Вадзім Казначэеў**
*„Свабода" № 61, 10 чэрвеня 1998 г.*

## Лістоўкі як крымінал

Міліцыя ўзбудзіла чарговую крымінальную справу за распаўсюджванне апазіцыйных лістовак

Як паведаміў праваабарончы цэнтр „Вясна-96", раніцай 2 чэрвеня супрацоўнікі Ленінскага РАУС Мінска ў мікрараёне Серабранка затрымалі двух маладых людзей 18 і 24 гадоў. Пры вобыску ў іх была канфіскавана невялікая колькасць лістовак і балончык з фарбай. Маладыя людзі віну адмаўляюць.

Супраць аднаго з іх узбуджана крымінальная справа па артыкуле „наўмыснае знішчэнне або пашкоджанне маёмасці", што прадугледжвае пазбаўленне волі на тэрмін да 1 года ці штраф. Пры вобыску ў яго кватэры было канфіскавана яшчэ некалькі лістовак.

*„Свабода", № 61, 10 чэрвеня 1998 г.*

## Беларуская прэса пра Беларусь

Сёньня Беларусьсю кіруюць прыхільнікі бальшавіцка-сталінскага рэжыму, — рускія інтэрнацыяналісты, шавіністы ды іншыя прахадзімцы. Розныя Замяталіны, Цюцяньковы, Плецюховы, Катляровы і дзесяткі іншых ненавісьнікаў усяго беларускага адкрыта нішчаць беларускую мову, культуру, нацыянальныя сімвалі ды незалежнасьць краіны. Чым беларусы ўгнявілі гэтых чужынцаў, што яны па зьвярынаму ненавідзяць беларускі народ?

*Беларускі дайджэст, н-р 5*

* * *

Усе памятаюць як Лукашэнка выхваляўся на пачатку свае кар'еры: „У мяне самая чэсная каманда..." Калі ў гэтай камандзе і былі сумленныя людзі, яны ўжо даўно з жахам зьбеглі адтуль, і адзінай сваёй праблемай бачаць тлумачэньне ўсім і кожнаму, чаму і як яны апынуліся сярод чорных палкоўнікаў і чырвоных капіталістаў? Цынічны прагматызм, выкарыстаньне самых нізкіх чалавечых якасьцяў, запалохваньне, нацкоўваньне, кампрамат, танныя маніпуляцыі, непрыхаваная хлусьня і хамства сталі штодзённай практыкай Лукашэнкаўскай каманды. Па сасудах яе гэты бруд цячэ ад самага верху да апошніх зьвеньняў дзяржаўных ўтварэньняў і расьцякаецца па чыстых у сваёй наіўнасьці душах электарата. Для тых, хто ў стане бачыць сапраўдны твар „самых чэсных", хто сьвядома не прымае ўведзенай ў закон амаральнасьці, наступілі цяжкія часы душэўнага дыскамфорта. Такой адкрытай і шчырай стаўкі на амаральнасьць не было нават пры камуністах. Хамы выйшлі з акопаў.

*Пагоня, н-р 18*

* * *

У Менску любяць хапаць за размову па-беларуску і проста за тое, што маладыя. Быў факт, што пасадзілі за краты нават маладога хлопца (А. Лясуна) — інваліда, глуханямога ад нараджэньня за тое, што, як сьведчыла міліцыя, „крычаў, лаяўся і выкрыкваў антыпрэзідэнцкія лёзунгі". Акупацыйны рэжым жыве па беззаконьню і на нянавісьці да беларушчыны. У яго адно правіла, адзін прынцып і падыход — права неабмежаванай улады.

*Беларускія ведамасьці, н-р 1*

* * *

Найвялікшая памылка лічыць, што Лукашэнку прывялі да ўлады маргіналы, або сяляне, або нізка адукаваны электарат, або што ён сам такі самародак і самадзержац. Усё так, але, галоўнае, старая панская вярхушка савецкага грамадзтва, якая трохі не папусьціла ўладу з рук на пачатку 90-х, зноў бліскуча і цьвёрда авалодала сітуацыяй, знайшоўшы масам улюбёнага, харызматычнага правадыра. Лукашэнка — гэта як Напалеон III пасьля рэвалюцыі 1848 году ў Францыі. Панская група, якая навязвае рэшце грамадства свае правілы гульні, вартасьці і прынцыпы — гэта сёньня досыць шырокі слой дробнай і сярэдняй квазібуржуазіі: ад завуча школы Зоі Іванаўны, да кадэбіста Сяргея Сяргеевіча, ад старшыні калгаса Станіслава Дамінікавіча да загадчыцы крамы Рымы Іосіфаўны. Гэтая пануючая група з размытымі межамі: яна неаднародная і незамкнутая, адны пакідаюць яе, другія трапляюць. Пра яе можна сказаць, што „яе няма", што гэта сымуляж, што яна нябачная: яна існуе ў форме сыстэмы вартасьцяў і культурных кодаў, тканкі стасункаў. Унутры панскай групы ёсьць і супярэчнасьці, і апазіцыя. Толькі калі нават гэтая апазіцыя зменіць калгаснага банапарта, як Цьер змяніў Напалеона Малога, гэта нічога не зьменіць. У краіне ня будзе ажыцьцяўленьня тых неабходных рэформаў, у выніку якіх у будучыні маглі б стварыцца эканамічныя і сацыяльныя перадумовы для скіданьня расейскага каляніяльнага ярма, дасягненьня рэальнай незалежнасьці і жорсткай, глыбокай эўрапеізацыі.

*Наша ніва, н-р 10*

## Шчукін у арышце

13 чэрвеня г.г. а 17-й гадзіне дэпутат Вярхоўнага Савета XIII склікання Валерый Шчукін быў затрыманы міліцыяй каля Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі. Прычынай затрымання была акцыя пратэсту, калі Шчукін аэразольнай фарбай ярка-зялёнага колеру на фасадзе будынка Міністэрства, што выходзіць на вуліцу Гарадскі Вал, зрабіў надпіс: „Свободу Андрею Климову!" Шчукін паспеў некалькі разоў абвесці літары. Ён зрабіў гэта ў знак салідарнасці са сваім калегам, які больш за 4 месяцы ўтрымліваецца пад вартай у следчым ізалятары. „Мая акцыя носіць чыста палітычны характар", — заявіў Валерый Шчукін журналістам. Праз 15 хвілін пасля заканчэння акцыі Шчукін быў затрыманы дзяжурным нарада міністэрства і дастаўлены ў аддзяленне міліцыі Цэнтральнага раёна сталіцы, дзе на дэпутата быў складзены пратакол. Шчукін быў абвінавачаны ў здзяйсненні адміністрацыйнага правапарушэння. З РАУСа Шчукін быў дастаўлены ў прыёмнік-размеркавальнік па вуліцы Акрэсціна, дзе правёў двое сутак. У той самы дзень надпіс на будынку міністэрства быў знішчаны. 15 чэрвеня ў Цэнтральным судзе суддзя Анатоль Барысёнак пацвердзіў закінутае раней абвінавачанне — здзяйсненне дробнага хуліганскага ўчынку. Паводле арт. 156 кодэкса адміністрацыйных правапарушэнняў суд прыгаварыў Валерыя Шчукіна да пазбаўлення волі на 10 сутак. Судовае пасяджэнне прайшло без прадстаўнікоў грамадскасці і журналістаў, а таксама без абаронцы. Не вядома, ці прасіў Шчукін, каб у працэсе браў удзел адвакат. Суддзя Барысёнак сказаў толькі, што „сваёй віны ў палітычным кантэксце Шчукін не прызнаў". У канцылярыі суда не было магчымасці азнаёміцца з тэкстам стэнаграмы судовага пасяджэння. Калі выводзілі Шчукіна з будынка суда, дэпутат паспеў пракрычэць у натоўп, што яго ўвесь гэты час — двое сутак утрымання ў прыёмнікуразмеркавальніку — не кармілі.

За апошнія два гады Валерый Шчукін, сакратар дэпутацкай камісіі Вярхоўнага Савета XIII склікання па бяспецы, 16 разоў прыцягваўся да адказнасці за нібыта арганізацыю альбо ўдзел у вулічных акцыях пратэсту. Агульная сума накладзеных на яго штрафаў складае больш чым 80 мільёнаў рублёў. Ён другі раз знявольваецца на 10 сутак арышту. (...)

**Эдуард Тарлецкі**
*Радыё „Свабода"*

# Курань сярод беларусаў




*Я. Курань спявае з „Чарамшынай".* Фота Сяргея ГРЫНЯВІЦКАГА

[1 ☞ *працяг*]

рэнне камісій, якія апрацавалі б новыя прынцыпы экзамену на атэстат сталасці па беларускай мове і праграму навучання па гэтым жа прадмеце з новымі падручнікамі. Прапанаваў таксама стварэнне пры Беластоцкай куратарыі пасады візітатара па беларускай мове і літаратуры, выказваючы сваё зацікаўленні наконт месца беларускай мовы ў будучай рэформе. Старшыня Беларускага саюза ў РП Яўген Вапа папракнуў прадстаўнікоў урада і Камісіі, што не хочуць гаварыць пра месца беларускай асветы і культуры пасля адміністрацыйнай і адукацыйнай рэформ. Выказаў ён засцярогі звязаныя з прадбачваным перанясеннем сродкаў на інвестыцыі для нацыянальных меншасцей з дзяржаўнага бюджэту ў ваяводскія і паветовыя, што можа стаць прычынай абмежавання іх выдаткавання.

Гутарка ішла таксама пра сродкі на даканчэнне пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы, пра дадатковае фінансаванне беларускіх калектываў і мерапрыемстваў, а між іншым Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі. Закіды ішлі ў бок Польскай дзяржаўнай чыгункі, якой рашэнне ў справе закрыцця пасажырскага транспарту на Гайнаўшчыне агульнавядомае.

На пытанні звязаныя з актуальнымі праблемамі ў асвеце і прадбачванымі рэформамі адказвала дырэктар Гражына Прушыньская з Міністэрства адукацыі, а ў справах звязаных з Беласточчынай намеснік Куратара. З адказаў відаць было, што нельга чакаць хуткай развязкі праблем, што толькі прапанаваныя рэформы дадуць магчымасць іх вырашыць. Таксама і члены сеймавай Камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей нічога не абяцалі, а толькі інфармавалі, што ўсе праблемы будуць яшчэ разглядацца на наступных пасяджэннях.

## У Бельску

Другі дзень (20 чэрвеня) сваёй пабыўкі на Беласточчыне сеймавая Камісія нацыянальных і этнічных меншасцей на чале з Яцкам Куранем прысвяціла перш за ўсё справам беларускай асветы. Дзеля гэтага ў Бельску адбылася візітацыя ў Агульнаадукацыйным ліцэі імя Б. Тарашкевіча і ў Пачатковай школе нумар 3.

Камісію і працаўнікоў асветы прывіталі сваім спевам дзяўчаткі з „Дзявочых нотак", а пасол Я. Курань пахваліў іх за тое, што спяваюць сучасныя песні: ніхто не скажа, што беларуская культура гэта скансэн.

Пасля наведання ліцэя і пачатковай школы (шкада, што наглуха была зачынена новая гімнастычная зала), адбылося выязное пасяджэнне камісіі на тэму „Асвета і школьніцтва беларускай нацыянальнай меншасці ў Беластоцкім ваяводстве", на якой разглядаліся таксама справы ўкраінскай асветы на Беласточчыне.

У пасяджэнні ўзялі ўдзел: прадстаўнік Куратарыі асветы ў Беластоку, Рышард Пшчулкоўскі, візітатар школ з навучаннем беларускай мовы Тамара Русачык, дырэктар ліцэя Зінаіда Навіцкая, бурмістр Бельска Андрэй Сцепанюк, настаўнікі беларускай мовы і прадстаўнікі розных беларускіх арганізацый. Прысутнічалі таксама прадстаўнікі Саюза ўкраінцаў Падляшша. Быў і былы прэм'ер-міністр польскага ўрада Уладзімеж Цімашэвіч.

Ужо ў самым пачатку Я. Курань сцвердзіў, што яны прыехалі дзеля таго, каб слухаць. Гаварыць пра вашы праблемы маеце вы, сказаў ён. Выступаючыя былі занепакоены, якая будзе будучыня беларускай асветы, што прынясе ёй рэформа, калі ў праграме, якая ўжо паявілася (выйшла ўжо другая „жоўтая" кніжка), няма ні слова наконт беларускай праблематыкі, няма наогул нічога аб школах нацыянальных меншасцей. Чаму беларуская гімназія мае быць асобна, а не ў адным комплексе з беларускім ліцэем і пачатковай школай? (З. Навіцкая, Я. Зенюк).

Павет, які неўзабаве мае фінансаваць асвету, не зможа поўнасцю вырашыць гэтыя справы. Невядома, хто і калі будзе кіраваць у павеце. Прыйдзе новая каманда і скажа: „Як наша ўлада, дык мы адаб'ем!" Найлепш было б, калі б школы фінансаваліся Міністэрствам нацыянальнай адукацыі, бо ў мясцовым асяроддзі можа быць па-рознаму (С. Лукашук).

Студэнты, якія закончылі навуку ў Беларусі, сказаў пасол Я. Сычэўскі, часта скардзяцца, што адносіны работадаўцы да іх радыкальна змяняюцца, як толькі ён даведваецца, дзе яны вучыліся, хаця пагадненне гаворыць аб раўнапраўнасці дыпломаў.

Павінен быць візітатар навучання беларускай мовы, які мог бы сачыць за дзейнасцю беларускай школы, а ад 1 верасня яго не будзе (Т. Русачык). Гэта справа палітычная (С. Плева).

Пасол Яцэк Курань пацешыў, як мог. Праблему я ведаю здаўна, сказаў ён. Школьніцтва наогул занядбанае, а меншаснае — асабліва. Неўзабаве прымем закон пра меншасці. Хочам стварыць эксперыментальныя школы, у якіх вучылі б талерантнасці.

Што датычыць украінскіх спраў, дык І. Кірызюк, намеснік старшыні Саюза ўкраінцаў Падляшша, таксама выказаў клопат пра школу. Можна, бадай, было б выдзеліць будынак, каб жменька ўкраінскіх дзяцей магла там вучыцца. А заадно выказаўся ён супроць беларускіх назваў, бо наступіла б „беларусізацыя". Трэба сягаць у гісторыю, глядзець, адкуль усё ідзе, напомніў ён прысутным.

## У Супраслі

На другі дзень пасля поўдня сеймавая Камісія наведала Супрасльскі праваслаўны манастыр, які мае сёння так многа праблемаў. У кастрычніку мінулага года была для яго прызначана датацыя, а ўжо ў снежні палову яе забралі. Частка манастыра, адкуль выбралася школа механізацыі сельскай гаспадаркі, выглядае страшна і патрабуе капітальнага рамонту. Абаронная царква рэстаўруецца, як акрэсліў гэта епіскап Іакаў, архімандрыт Супрасльскага манастыра, даўжэй, чым у свой час будавалася. На ўсё патрэбны грошы.

Пасля таго, як госці наведалі гэты цікавейшы аб'ект, адбылося пасяджэнне, на якім было выказана шмат горкіх слоў наконт сітуацыі беларусаў і наогул праваслаўных на Беласточчыне. Суцішыла неяк усіх набажэнства ў царкве Іаана Багаслова.

Вечарам у асяродку адпачынку „Пушча" гасцей амаль да поўначы бавіў калектыў „Чарамшына", спяваў з усімі сам Яцэк Курань, а на гітары фахова падыгрываў беларускі консул у Беластоку Мікола Крэчка. На канец прыехала міністр культуры Іаанна Внук-Назарова. Нават зайграла на флейце, спявала цудоўна і танцавала. Там ніякіх праблем не было.

## У Беластоку

У нядзелю 21 чэрвеня сеймавая Камісія па справах нацыянальных меншасцей прабывала ў Беластоку. У будынку Ваяводскай управы яе члены сустрэліся з прадстаўнікамі беларускіх арганізацый і дэлегацыяй Саюза ўкраінцаў Падляшша. Хаця камісія з'явілася тут, каб разглядаць справы вялікай часткі жыхароў ваяводства і горада, на пасяджэнне не з'явілася ні пані ваявода Крыстына Лукашук, ні прэзідэнт горада Кшыштаф Юргель, не прыслалі яны таксама нікога са сваіх намеснікаў. Атрымалася так, што беларусы чарговы раз маглі прадставіць свае праблемы паслам, якія пра іх ужо некалькі разоў мелі нагоду слухаць.

Першы забраў голас старшыня Беларускага саюза ў Рэчы Паспалітай Яўген Вапа, які зачытаў ліст накіраваны Камісіі ад імя арганізацый аб'яднаных у Саюзе. Успамінаецца там аб патрэбе стварэння ў Беластоку Цэнтра беларускай культуры, пашырэнні часу беларускіх перадач у Беластоцкім тэлебачанні, а таксама пра ігнараванне беларускай культуры ваяводскімі і гарадскімі ўладамі.

Старшыня БГКТ Ян Сычэўскі звярнуў увагу на тое, што ваяводскія ўлады праблемы беларускай культуры разглядаюць на ўзроўні спартыўнага клуба. На Свята беларускай культуры ў Беластоку ў бюджэце ваяводы былі запланаваны 2 тысячы злотых, а канчаткова выдзялілі толькі тысячу. Ад высокіх касцельных іерархаў плывуць выказванні, — гаварыў Сычэўскі, — што беларусы былі прывезены сюды з глыбі Расіі царскімі ўладамі. Адзін з кандыдатаў на віцэ-куратара быў адкінуты камісіяй таму, што ён праваслаўны. Паводле Яна Сычэўскага, вельмі адмоўна пра БГКТ пішуць таксама мясцовыя журналісты, а тое, што яны пішуць, не адлюстроўвае фактаў, а толькі іх погляды.

Старшыня Камісіі Яцэк Курань звярнуў увагу, што журналісты прадстаўляюць незалежную прэсу, якая знаходзіцца ў руках незалежных выдаўцоў і таму змаганне з журналістамі гэта дарога невядома куды.

Іван Кірызюк заявіў, што выступае ад імя 100 тысяч украінцаў, якія жывуць паміж Бугам і Нарваю, і якія ад тысячы гадоў развіваюць там сваю культуру.

Найбольш воплескаў атрымаў Сакрат Яновіч, які сказаў: „Не будзе лепей, ёсць дрэнна, а будзе яшчэ горш. Беларусы ў Беластоку трактуюцца як заложнікі". Ідзе маланкавая паланізацыя. Беларусы каб пазбегнуць падазрэння ў нелаяльнасці, масава апалячваюцца. У Беластоку быццам бы тэлебачанне стваралася для забеспячэння патрэб беларускай меншасці, а на практыцы выйшла так, што беларусы маюць амаль столькі ж эфірнага часу, што татары, цыганы, украінцы, рускія, немцы, якіх тут пражывае па пару дзесяткаў асоб. Пратэставаў Курань, які звярнуў увагу, што паводзіны беластоцкіхураднікаў гэта яшчэ не дзяржаўная палітыка.

Міністр культуры і мастацтва Іаанна Внук-Назарова сказала, што ў гэтым годзе датацыі на беларускую культуру павысіліся амаль на 20 працэнтаў, а на Саюз украінцаў Падляшша — на 37 працэнтаў. Дзяржава надалей будзе спрыяць развіццю культуры нацыянальных меншасцей, — дэкларатыўна заявіла спадарыня міністр.

Кастусь Масальскі расказаў пра гісторыю пабудовы помніка загінуўшым праваслаўным жыхарам Беласточчыны і пра цяжкасці з афармленнем усіх звязаных з гэтым дакументаў.

Падсумоўваючы дыскусію, старшыня Камісіі Яцэк Курань сказаў, што надзеяй на будучыню з'яўляецца адукацыя палякаў у галіне культуры народаў, якія пражываюць побач. Можа наступнае пакаленне ўраднікаў, паслоў, міністраў інакш будзе глядзець на праблемы людзей іншай нацыянальнасці і веравызнання.

**Аляксей Мароз**
**Ада Чачуга**
**Яўген Міраніч**

# Наш паніч музыкантам быў



*Сабін Салавей ля 120-гадовай хаты ў Багушах.*

*(працяг; пачатак у 24 н-ры)*

**Маёнтак раскулачылі**

У Сярбоўцах шукаем Семенчука — гаспадара, які абрабляе зямлю Тарасевіча. У пачатку вёскі жалезны каталіцкі крыж. Заглядаем у бярэзіну на другім баку дарогі. Там таксама знаходзім каменна-жалезны стары крыж. Аздоблены ён анёлкамі і сонечнымі прамянямі. Некалькі хвілін узіраемся на шырозную даліну Сакалды. Перад намі краявід, быццам мастацкая карціна, стыхійны і вольны.

На панадворку Кастуся Семенчука сустракаюць нас маладыя мужчыны. З заложанымі на грудзях рукамі, насцярожана, слухаюць нашы доўгія паясненні. У канцы прыводзяць бацьку, Кастуся Семенчука.

Гаспадар, год нараджэння 1922, запрашае ў дагледжаную святліцу.

— Пытаеце пра паніча? Ён добрым музыкантам быў. У маёнтку сабе жыў. Не было ў нас інтарэсаў. А зямлю я ад *паньства* (дзяржавы) ужо купіў.

Кастусь Семянчук расказвае як пры савецкай уладзе калгас у Багушах заклалі. Тады і частку зямлі Тарасевіча ўзялі. А пасля вайны маёнтак раскулачылі. Нажыліся многія. Лес па начах кралі, некаторыя ў турме сядзелі. Будынкі да вайны яшчэ ў Багушы вывезлі, тое-сёе згарэла. У маёнтку адно ламачча валялася. То і ўсё сапхнуў наш субяседнік у кучу, каб поле акуратна засеяць.

Кастусь Семянчук, адзіны праваслаўны ў наваколлі, цвёрда адказвае па-польску. Разам з сынамі кавалерамі гаспадарыць на трыццаці гектарах.

— I co z tego? — наракае. — I tak kiedyś bankructwo będzie. Żeby to chłopcy żonate byli.

**Мой прыяцель дарагі**

Яшчэ раз вяртаемся на месца былога маёнтка. На насыпе знаходзім бутэлькі з-пад каньяку і шампанскага. У лесе Тарасевіча гамоняць-пераклікаюцца крукі. А з гары, пра якую распавядаў анекдот пан Казімеж з таямнічага хутара, незабыўны далягляд. Рамантычна-ўзнёслая музыка Яна Тарасевіча сугучная краявідам Сакольшчыны. Гэтую залежнасць найбольш адчуваем у Шындзелі. Глядзіш на шырозную даліну Сакалды і міжвольна заводзіш ягоныя „Песні жальбы".

У Багушах, тры кіламетры ад маёнтка, спыняемся ля старой хаты, накрытай драніцай.

— Дом сто дваццаць гадоў мае, — кажа Сабін Салавей. — Тарасевіч, паніч? То ж гэта мой прыяцель дарагі, — узбуджаецца круты старажыл. — Але не думайце сабе, — паясняе, — ён парадачным чалавекам быў, інтэлігентным, вельмі вучоным. У Гродне музыку выкладаў. Піяніна ў двары меў. Дзе яно цяпер — адзін Бог ведае.

Пан Сабін часта падвозіў Тарасевіча ў Саколку, бо музыкант слабых коней меў.

**Зрабілі мост на Сакалдзе**

Яна Тарасевіча памятае Казімеж Зажэсцкі, год нараджэння 1920. Гэтага бадзёрага старажыла спыняем пасярод вёскі. Дзядзька малайцавата імчаў на веласіпедзе.

— Які там з паніча гаспадар быў! — махае рукой пан Казімеж. — Пажне, змалоціць і зразу на продаж да жыда вязе. Лес прадаваў, сена, зямлю здаваў у арэнду. Ат, каб пражыць толькі!

Наш субяседнік расказвае пра лёс двара.

— Дом прывезлі ў Багушы. За першых саветаў было гэта. Найперш кінулі яго на пляц, дзе цяпер школа стаіць.

— Ці ваша школа гэта колішні дом Тарасевіча? — пытаем пра салідны, двухпавярховы драўляны будынак.

— Дык не, — кажа наш субяседнік. — Школу мы самі пабудавалі. Дом Тарасевіча на рэчку завезлі, мост на Сакалдзе зрабілі.



*Адзіны след ад Тарасевічавай сядзібы. Ля грушкі-дзічкі Лена Глагоўская.*

**Прырода паставіла помнік**

З падарожжа ў Шындзель найбольш уразілі мяне сімвалы — самотная груша на скрыжаванні дарог і галашэнне крукоў. Як у народнай сіроцfolkай песні сама прырода расказвала пра лёс героя.

Як Тарасевіч у сем гадоў астаўся круглым сіратой. У Шындзелі пражыў у самоце ўвесь даваенны перыяд. Тут змагаўся са сваім лёсам і жудасцямі гісторыі. Памёр у нэндзы і самоце ў чужым Беластоку. Усё жыццё прысвяціў музыцы. Крыніцай натхнення была яму беларуская песня. Пакуль што, толькі прырода паставіла яму свой красамоўны помнік — грушку-дзічку на насыпе, быццам кургане.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*

# Прыжыццёвы помнік

У Менску толькі што выйшла кніга Лідзіі Савік „Космас беларуса. Жыццяпіс Барыса Уладзіміравіча Кіта, асветніка, вучонага, патрыёта". Гэта ўжо другое выданне біяграфічнай кнігі пра беларускага вучонага, грамадзяніна Злучаных Штатаў Амерыкі.

Як мала каму з вялікіх беларусаў, Барысу Кіту пашчасціла дачакацца пры жыцці кнігі пра сябе на радзіме і то ў двух выданнях (1996 і 1998 гг.).

Да 90-х гадоў пра Барыса Кіта ніхто ў Беларусі не гаварыў, хіба, што ў думках успаміналі свайго настаўніка вучні. Незалежнасць, якая абрынулася на Беларусь, вяртанне ёй нацыянальнай сімволікі, адкрыла перад беларускімі эмігрантамі, якія паўвека трывалі ў надзеі на беларускае адраджэнне, магчымасць вяртання на бацькаўшчыну. Адным з іх быў Барыс Кіт. У Беларусь упершыню прыехаў у 1992 г., пасля таго, як у 1944 годзе з яе ўцякаў, каб ратаваць сваё і сям'і біялагічнае існаванне.

Зараз Барысу Кіту споўнілася 88 гадоў. Нядаўна, 26—27 мая падчас ягонай пабыўкі ў хрэсніцы Мар'і Марліч (дзявочае прозвішча: Ільяшэвіч) у Шчэціне мела і я нагоду пазнаёміцца з гэтым беларускім волатам. Два дні бясконцых размоў пра мінулае і сённяшняе Беларусі сведчаць пра цудоўную кандыцыю героя кнігі Лідзіі Савік.

У студзені Барыс Кіт наведаў Вільню, дзе ад 1928 г. штудзіраваў матэматыку на Універсітэце ім. С. Баторыя, а пасля да 1939 г. працаваў настаўнікам Віленскай беларускай гімназіі.

У Шчэцін прыязджае ў госці, звычайна, як да сваіх самых блізкіх. Як сам сказаў, „гэта ж не так далёка з Франкфурта-на-Майне — толькі 12 гадзін цягніком". У Франкфурце Барыс Кіт жыве ад 1972 года. Калі толькі Марыля Марліч у пошуках свайго бацькі Хведара Ільяшэвіча натрапіла на Барыса Кіта, які аказаўся ейным хросным бацькам — з той пары пачалося іх сямейнае сяброўства. На гэты раз Барыс Кіт прывёз з сабой новенькія кнігі пра сябе. Падарыў Марлічам, мне, адну прасіў перадаць у Нацыянальную бібліятэку ў Варшаве: „Няхай і там будзе".

Кніга прыцягвае сваёй салідпасцю. У ёй 449 старонак. Выдадзена на добрай паперы ў Мінску тыражом 200 экземпляраў. Першае выданне выйшла на многа горшай паперы тыражом 2000 экземпляраў.

Новае выданне папярэджвае біяграфічная даведка пра Барыса Кіта — таленавітага матэматыка, фізіка, доктара філасофскіх навук, акадэміка Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, віцэпрэзідэнта Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, старэйшага сябра Амерыканскага астранаўтычнага таварыства, ганаровага сябра Брытанскага і Нямецкага міжпланетных таварыстваў, заслужанага прафесара Вашынгтонскага Мэрылендскага універсітэта, залатога медаліста Нямецкага навуковага таварыства імя Германа Оберта, ганаровага грамадзяніна горада Навагрудка.

Далей ідзе змест, якога не хапала ў першым выданні. Кніга складаецца з дзвюх частак — жыццяпіснай і мемуарнай (успаміны Барыса Кіта пра сваіх сяброў і ўспаміны пра яго, а таксама вершы прысвечаныя яму).

У „Дадатках" — апошняй частцы кнігі можна знайсці цікавыя дакументы: атэстат сталасці з 1928 г. з Навагрудка, дыплом Віленскага універсітэта, віншаванні прэзідэнта ЗША Біла Клінтана і яго жонкі з нагоды 85-годдзя Барыса Кіта, аўтографы Васіля Быкава, Ніла Гілевіча, Ніны Мацяш, каляровыя здымкі з сустрэч, бібліяграфію ягоных прац і прац пра яго. Большасць гэтых апошніх паўстала ў Беларусі пасля вяртання Барыса Кіта на бацькаўшчыну.

Кніга наогул багатая ў здымкі з розных перыядаў жыцця вялікага вучонага, які выйшаў у свет з беднай сям'і з-пад Навагрудка. Барыс Кіт шмат у чым абавязаны навагрудскаму ваяводу Бэчковічу, які даў яму, здольнаму, але беднаму хлопцу, стыпендыю, дзякуючы якой мог ён вучыцца, каб пазней паступіць ва універсітэт. Вялікі ўплыў на яго меў польскі матэматык Антоні Зыгмунт (1900—1991), які выкладаў на Віленскім універсітэце. Шмат Барысу Кіту дапамаглі ягоныя вучні і сябры: Адам Дасюкевіч, Кастусь Касяк, Станіслаў Станкевіч, ратуючы яго ад смерці падчас нямецкай акупацыі.

Барыс Кіт не ўключаўся ў дзейнасць палітычных партый, апрача „Грамады". Але грамадска шмат рабіў для беларускага асветніцтва — разам з выкладаннем матэматыкі ў душах вучняў засяваў і беларускую нацыянальную свядомасць.

Вось і зараз Барыс Кіт галоўнай прычынай выдання кнігі лічыць яе ўсведамляльную ролю. „Не для славы, бо яе я даўно ўжо здабыў, але каб людзі ведалі, што варта быць беларусам заўсёды", — гаворыць наш герой.

**Лена Глагоўская**

# Алімпіяды і конкурсы

**— Зацікаўленні ў мяне розныя, таму і прымала я ўдзел у многіх алімпіядах, — кажа Анна Васілюк, вучаніца III класа Гайнаўскага белліцэя. — Аднак найбольшых поспехаў дабілася я на Алімпіядзе беларускай мовы.**



Першае месца на сёлетняй Алімпіядзе беларускай мовы дае Ані Васілюк магчымасць стаць без экзаменаў студэнткай аднаго з многіх факультэтаў, згодна з рашэннямі сенатаў многіх вышэйшых навучальных устаноў.

— Творчасць Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Яна Чачота ці Яна Баршчэўскага — гэта той перыяд, на які я звяртала ўвагу таму, што мяне цікавілі суадносіны польскай і беларускай літаратур, — успамінае Аня пра пісьмовую працу, што пісала на Алімпіядзе беларускай мовы. — Памятаю, што я вельмі хвалявалася тады перад вуснымі экзаменамі.

Нядаўна Аня Васілюк вярнулася з Явара, што недалёка Кросна, дзе змагалася ў Алімпіядзе экалагічных ведаў і стала фіналісткай цэнтральнага этапу.

— Вучылася я ў класе з біялагічным ухілам, у якім многа гаворыцца пра экалогію, а побач Гайнаўкі — Белавежская пушча, таму мае зацікаўленні звязаны з аховай асяроддзя і экалогіяй, — кажа Аня. — У час алімпіяды найбольш увагі адводзілася сувязям экалогіі з аховай асяроддзя, але апрача інфармацый з падручнікаў трэба было ведаць таксама спеў розных птушак, на які раней я і не звяртала ўвагі.

Можна яшчэ гаварыць пра некалькі алімпіядаў і конкурсаў, у якіх Аня Васілюк прымала ўдзел. На школьным этапе не хапіла ёй 2 балаў, каб перайсці да ваяводскага ў Алімпіядзе нямецкай мовы. На ваяводскім этапе закончыла хімічны конкурс імя Свінарскага. У Ломжы змагалася на Алімпіядзе аховы асяроддзя. Разам з сябрамі перамагла ў экалагічным агульнапольскім рэйдзе моладзі, што арганізаваны быў у Грыфіне каля Шчэціна. У школе ў Ані таксама выдатныя рэзультаты, яна — найлепшая вучаніца ў класе з сярэдняй ацэнкай — 5,4.

— Найбольш цікавіць мяне біялогія і філалагічныя прадметы, таму менавіта алімпіяды па беларускай і нямецкай мовах і біялогіі. Пра будучыню яшчэ сур'ёзна не думала: можа, нямецкая мова, можа медыцына? — мяркуе Аня. — Аднак алімпіяды — гэта не толькі поспехі і паражэнні, але і вопыт патрэбны на будучых экзаменах, гэта сустрэчы і размовы з моладдзю з усёй Польшчы. Я, напрыклад, заўважыла, што вучні з заходняй Польшчы лепш ставяцца да беларускай мовы, чым палякі з Беласточчыны. Паколькі не маюць кантакту з беларускасцю, прасілі, каб ім расказваць пра беларусаў. Прыслухоўваліся вельмі ўважліва, калі на экалагічным рэйдзе мы спявалі беларускія песні ці размаўлялі між сабой па-беларуску.

**Аляксей Мароз**

# Смак жыцця, зелле для душы

*Душою ў палі ўцякаю...*

Пабачыла свет новая беларуская кніжка* ў Беластоку, варшавянкі родам з Белавежы, Алены Анішэўскай. Зрабілі яе ніўцы, раскашэліўся варшаўскі ваявода ды Старамейскі дом культуры ў Варшаве. Прыклалі яшчэ руку і сэрца да выдання гэтай цудоўнай кніжачкі Георгій Валкавыцкі і Віктар Швед ды Васіль Белаказовіч. Рабілі мы ўсё гэта не толькі таму, што бачылі каштоўнасць твораў аўтаркі, але і кахаем яе як чалавека, беларуску і грамадскага рупліўца. Напэўна, у сваёй сціпласці спадарыня Алена цяпер румяніцца ад пахвал як маладая пушчанка, але ўсё гэта праўда! І мы з вялікім заангажаваннем і ахвотай як выдаўцы рабілі кнігу, з не меншай радасцю ўбачылі, якой прыгожай яна атрымалася і цешымся, што чытач будзе мець таксама вялікую радасць з такога падарунку для душы. Чытач не толькі беларускі, але і польскамоўны — у зборніку ёсць, апрача беларускіх вершаў і апавяданняў, беларускія вершы на польскай мове.

— Душа мая мае быццам два бакі: адзін беларускі, родны, узяты ад маіх продкаў, а другі — набыты, ад Польшчы, ад польскай культуры, — сцвярджае аўтарка зборніка „Смак жыцця".

Алена Анішэўская ў сваіх творах затрымлівае хвіліну жыцця, смакуе яе, успамінам настрою і колеру ўвекавечвае былое. „Пакідае гоман" гарадскі, заглыбляецца ў прыпушчанскую прыроду, дзе салаўі, дажджы, асенні сум, начныя сады, закаханы месяц, вішні, астры, дзе магілы і вясновае каханне. „Любіць да болю" ўсё гэта, „слухае цішу", „адчувае вясну". Вернецца ў свой гоман і шум гарадскі, пасля свайго візітання Белавежы... *Дзень мо два па палях пахаджу, дакрануся рукамі да жыта і бярозе свой сум раскажу і вярнуся з душою разбітай...*

Ёсць тут той сум прамінання, але той сум — як смутак асенні, калі прырода збіраецца на спачын, але ўсё ў гэтым натуральна боскае і згоднае з праўдай і кругаваротам сусвету. Хоць *мне не ўсё роўна, дзе жыву я, дзе ў неабудны адыду спачын...* Але

*Пакуль апошні ліст з бярозы*
*Сарве пануры лістапад,*
*Няхай не муцяць вачэй слёзы,*
*Вясна шчэ вернецца назад.*
*То нам з табою не вярнуцца*
*У май жыцця і белы сад,*
*Ідзем паспешна і трывожна*
*У наш жыццёвы лістапад...*

Ёсць у „Смаку жыцця" таксама добрыя пераклады з Тадэўша Катарбінскага, Анны Каменскай, Віславы Шымборскай, і вельмі дасціпны і праўдзівы „Наш Парнас" — у пятнаццаці „песнях" апісанне нашае „Белавежы", пачынаючы з таго, як роўненька сорак гадоў таму *на першы ўскрыленны нарад сышліся нашы хлопцы — Ян, Яша, Віктар, Юрка і Сакрат...*

Кнігу можаце набыць у рэдакцыі „Нівы" і на мерапрыемствах, арганізаваных Беларускім таварыствам.

**Міра Лукша**

*Алена Анішэўская, *Смак жыцця*, выданне Праграмнай рады тыднёвіка „Ніва", Беласток 1998, сс. 111.

# У маладосці сіла

„... таму, што добрая забава не для ўсіх, а для адзінак, якія ўмеюць гуляць", — сказаў бы мой сябра. Гэтымі адзінкамі былі напэўна ўдзельнікі Турніра беларускай моладзі — Гайнаўка '98, які адбыўся 30 красавіка і якога датычыць будзе мой успамін.

Сёмы ўжо Турнір падрыхтаваны быў Звязам беларускай моладзі, які зрабіў гэта вельмі добра, амаль прафесіянальна, за што належыцца яму вялікае дзякуй. Прыгадаю, што ў змаганнях удзельнічалі чатыры дружыны: ліцэісты з Гайнаўскага і Бельскага белліцэяў, студэнты з Варшаўскага аддзела Беларускага аб'яднання студэнтаў і прадстаўнікі Брацтва праваслаўнай моладзі з Беластока. Колькасць удзельнікаў у паасобных дружынах была розная. З абодвух ліцэяў было амаль па сто асоб. БАС прадстаўляла 13 чалавек, БПМ—6. Аднак гэтая разнароднасць нікому не мяшала і ўсе, прынамсі тэарэтычна, мелі роўныя шансы.

**Жыццёвы парадокс**

— гэтак акрэсліць можна лёс удзельнікаў турніра. Некаторыя з іх яшчэ год таму былі ў ліцэйскіх дружынах, а цяпер яны як члены БАС выступалі супраць ліцэяў. Аднак хіба ўсе ўспрымалі гэта як забаву.

БАС вылучаўся з усіх камандаў „фірмовымі" кашулькамі, якія здалёку было відаць на фоне астатніх. Трэба тут адзначыць, што басаўцы з вялікай ахвярнасцю самі малявалі свае кашулькі.

Крыху адрозніваліся прадстаўнікі Гайнаўскага белліцэя, пазначаныя літарай „Г", што сімвалізавала Гайнаўку, або „граблі", якія сталі знакам гэтага ліцэя (на жаль, яны не паяснілі, чаму так).

БАС гуляў найвесялей. „Мы былі найбольш «вылюзованыя»", — сказаў Смок (Марк Гаўрылюк) — намеснік старшыні БАС. І гэта праўда. Яны з вялікай ахвярнасцю і вынаходлівасцю падбадзёрвалі сваіх прадстаўнікоў. І хаця паздзіралі пры гэтым глоткі — сапраўды дапамаглі!

Вельмі стараліся вытрымаць прадстаўнікі Брацтва, якіх было мала, але ім гэта не мяшала паспрабаваць зраўняцца з многалікімі дружынамі з ліцэяў. У некаторых канкурэнцыях ім гэта нават удалося. Сіла ліцэістаў была ў іх колькасці. Яны таксама добра гулялі пад уважлівым вокам сваіх настаўнікаў.

**Адзін крык**

было чуваць, калі пачалася першая канкурэнцыя. У час спаборніцтваў былі змаганні, якія мелі праверыць сілу і спрыт удзельнікаў. Трэба было без дапамогі рук з'есці яблык, які знаходзіўся ў місцы з вадой або, таксама без дапамогі рук, з'есці кавалак пірага (велічынёю тоўстай кніжкі, з вялікай колькасцю крэму). Вельмі смачная канкурэнцыя, пірог таксама! (Я сама паспрабавала тут сваіх магчымасцяў, аднак, без рэзультатаў...). Была эстафета на палавіках і „коннікі" — хлопцы на спінах сяброў, як сярэдневяковыя рыцары, ваявалі за гонар сваіх дружынаў. На час трэба было выпіць шклянанку малака. Сёлета нават студэнты не дамагаліся піва і гэта выйшла ім на здароўе. Удзельнікі змагаліся таксама ў камп'ютэрных гульнях і маляванні графіці. Хлопцы маглі пабарукацца, хто з іх мацнейшы ў руцэ.

Цікавыя былі іншыя змаганні ўдзельнікаў, аднак, здаецца, найбольшае зацікаўленне выклікала прэзентацыя моды. Тут усе дасканала паказалі сваю дасціпнасць і арыгінальнасць не толькі з боку строяў, але і каментарыяў. „Калекцыя" Гайнаўкі смяшыла палітычнымі падтэкстамі. Бельскія ліцэісты прадставілі моду для ўсіх: ад дзіцяці да старэчаў. Усё дэманстравалася на фоне музыкі, якая зрушыла ўсю публіку. БАС паказаў толькі дзве мадэлі, але, паводле прынцыпу: „Мода не для ўсіх, а для адзінак".

**Перамагла добрая забава**

Усе згодна гаварылі, што не важна, хто перамог. Верх брала забава, магчымасць сустрэчы.

Гайнаўка заняла першае месца ўжо чарговы раз. Бельск меў намнога слабейшы выступ, аднак перамог БАС, які ў гэтым годзе меў сапраўды добрую дружыну: студэнты не пераняліся трэцім месцам і адчувалі сябе пераможцамі.

Сустрэчу закончылі супольныя гульні пад гукі гурту Р.Ф. „Брага" з Гарадка і „The Dvery" з Гайнаўкі. З году ў год турнір становіцца цікавейшым і лепш арганізаваным. Усе вераць, што праз год маладыя беларусы сустрэнуцца ў чарговы раз.

**Кася Аўсяйчук**

# Кніга пра Святую Зямлю

Гайнаўскае праваслаўнае выдавецтва „Братчык", якое выпускае штотыднёвік „Bratczyk" і багаслоўскую літаратуру галоўным чынам на польскай мове, выдала друкам ужо дзве кніжкі па-беларуску. У 1996 годзе на кніжных паліцах з'явіўся пераклад кнігі іераманаха Гаўрыіла (Кранчука) „Манахі Афонскай гары аб праваслаўнай духоўнасці", а на днях выйшла беларускамоўная версія кнігі сястры Марыі (Юрчук) „Святая Зямля, Цуд Агню і Слава Воблакаў". У ёй даецца апісанне важнейшых мясцін Святой Зямлі: Іерусаліма, Віфлеема, Фавора, Сінная, Аліўнай Гары, Іардана, шматлікіх храмаў і цудаў, якія ў іх здзяйсняюцца. Многа месца ў кнізе адведзена цуду агню над Магілай Гасподняй у Іерусаліме. Гэтая з'ява тлумачыцца як своеасаблівае таінства прысутнасці ласкі Святога Духа ў Праваслаўнай Царкве, паколькі святы агонь з Магілы Гасподняй напярэдадні Уваскрэсення Хрыстовага атрымоўваюць толькі праваслаўныя іерархі. Апісваючы гэтую цудоўную з'яву аўтарка прыводзіць як старадаўнія апісанні гэтага цуду (напрыклад, расказ паломніцы ад 1859 года), так і сучаснае сведчанне іераманаха Рамана шасцігадовай даўнасці. Выданне багата ілюстраванае каляровымі здымкамі на ўклейках ды чорна-белымі фатаграфіямі і застаўкамі ў тэксце. Кніжка каштуе 6 зл. і можна яе купіць у нашай рэдакцыі або заказаць у выдаўца па адрасе: **Wydawnictwo „Bratczyk", 17-200 Hajnówka, ul. Mazurska 14**, tel./fax (0-85) 682 25 65. Заказчыкі грошы могуць пералічваць на банкаўскі рахунак выдавецтва: PBK S.A. O/Hajnówka nr 11101170-4659-27000-1-12.

**(вл)**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Белавежа — месца вартае наведання



*Памятны здымак удзельнікаў XIII Сустрэч „Зоркі" на фоне белавежскага скансэна.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Думаю, што для ніводнага чытача „Нівы" не трэба гаварыць, дзе знаходзіцца Белавежа. Дзякуючы таму, што тут адбыліся XIII Сустрэчы „Зоркі", я мог лепш прыглядзецца гэтай мясціне.

Першая рэч, якая кідаецца ў вочы пасля прыезду ў Белавежу гэта крамы з сувенірамі. У іх можам купіць драўляныя мініяцюры сімвала Белавежскай пушчы — зубра, а нават у два разы даражэйшыя чым у звычайным магазіне цацкі. Аднак, што мяне здзівіла: у амаль ніводнай краме з памяткамі я не знайшоў звычайнай, саліднай кніжкі пра Белавежу або пра Белавежскую пушчу.

Здзівіла, а нават рассмяшыла мяне іншая справа. На некалькіх прызначаных турыстам месцах (напр. магазіны з сувенірамі) шыльды напісаны выключна на англійскай мове. Разумею, што гэта прыдаецца турыстам з-за мяжы, але што мае сказаць чалавек, які прыехаў сюды з цэнтральнай Польшчы і не ведае іншых моў?

Нягледзячы на гэта, Белавежа мае шмат аб'ектаў. Ёсць тут вельмі прыгожая царква і музей. Некалькі кіламетраў ад Белавежы можам агледаць зуброў у іх прыгожым запаведніку. Апрача зуброў жывуць тут ваўкі, ласі, алені, дзікі ды зуброні — скрыжаванне зубра і каровы.

І апошняя справа. У час XIII Сустрэч „Зоркі" я пераканаўся, што ў Белавежы жывуць вельмі мілыя і адкрытыя людзі.

На канец хачу сказаць, што варта прыязджаць у Белавежу — гэта сапраўды цікавая мясціна.

**Міхась Сцепанюк**



*Анджэй Кэчынскі расказвае пра асаблівасці пушчанскай прыроды.* Фота Г. КАНДРАЦЮК

## Вясёлы куточак

— Мамачка, я пэўна атрымаю пяцёрку! У кантрольный працы я напісаў, што страус мае тры нагі.

— Што ты! У яго толькі дзве!

— Дык я і так быў найбліжэй праўды, бо іншыя вучні напісалі, што страус мае чатыры нагі.

* * *

Бабулька аглядае бюлетэнь унучка і з незадавальненнем круціць галавою.

— Як думаеш, — пытае ўнучак, — што склалася на такія мае ацэнкі: спадчыннасць ці асяроддзе?

* * *

— Чым цябе мама корміць, што ты так прыгожа выглядаеш? — пытае бабулька ўнучку.

— Лыжачкаю.

**Даслаў Андрэй Гаўрылюк**

## Вершы Віктара Шведа

### Парасон

Ваню запытаў Лявон,
Ён дапытлівы заўсёды:
— Чаму носіш парасон,
Калі на двару пагода?

Праўдамоўны заўсягды
Ваня кажа вінавата:
— Калі дождж ідзе, тады
Парасон мой носіць тата.

### Рэўматызм

Дзедка-жартаўнік пытае
Унука Валерку:
— Скажы, што я ў руцэ маю?
— Напэўна — цукерку.

— Не, гадай далей, унучак!
— Можа, шакаладку?
— Рэўматызм, што мяне мучыць
Заўжды без агляду.

## Мае сустрэчы

Ад 5 да 7 чэрвеня г.г. адбыліся XIII Сустрэчы „Зоркі", дзе і я пабывала. Было вельмі цікава. Я пазнаёмілася з рэдактарамі „Нівы" і „Czasopisa". Яны расказалі пра сваю працу. Усе слухалі з увагай расказаў запрошаных гасцей. Побач нашай гасцініцы відней дрымучы лес, Белавежская пушча. Хадзілі мы з экскурсаводам Анджэем Кэчынскім па турыстычным пушчанскім шляху. Той шлях нагадвае мост, пакладзены над багнай. Любаваліся мы натуральнай прыродай, вялікімі і магутнымі дрэвамі. Ліпа расце ў пушчы ўжо дзвесце гадоў, а нават і болей. Пайшлі мы ў запаведнік зуброў. Вельмі прыемна было пабачыць магутных жыхароў пушчы. Аглядзеўшы гэты запаведнік мы, стомленыя, вярнуліся ў свой дом-гасцініцу, дзе чакала нас снеданне. Некалькі хвілін мы адпачывалі, а пасля пайшлі ў белавежскую царкву. Ля царквы ляжаў той крыж, які мы размалявалі ў лікі розных святых. Крыж урачыста быў узнесены побач царквы і асвячаны епіскапам.

**Аліна Сіроцкая, ПШ у Чыжах**

## Сустрэча

6 чэрвеня ў час XIII Сустрэч „Зоркі", якія гасцявалі ў Белавежы, адбылася сустрэча з Аляксандрам Максімюком. А. Максімюк з'яўляецца сакратаром рэдакцыі „Нівы". Яго задача — вычытванне і рэдакцыя тэкстаў, якія будуць надрукаваны ў „Ніве".

Тэмай даклада А. Максімюка была прэсавая інфармацыя — кароткая форма пісання. Дакладчык расказаў, у які спосаб трэба яе пісаць. Паводле яго, прэсавая інфармацыя павінна быць кароткая, змястоўная, празрыстая. „Важная справа, — сказаў А. Максімюк, — каб пішучы інфармацыю не выяўляць сваіх думкак і меркаванняў". На канец даклада госць Сустрэч прачытаў дзве прэсавыя інфармацыі: добрую і дрэнную.

**Міхась Сцепанюк**

# Паэтка Валерушка Кустава

Валерыі Куставай з Менска 9 кастрычніка г.г. споўніцца 14 гадоў. А ў 1996 г. выйшла яе кніжка вершаў „Кроў сусвету", разам у зборніку з таксама маладым рускамоўным калегам Дзянісам Старавойтавым-Юрчанкам („Пробил уж полночный час"). Валерыя паралельна з вучобай у сярэдняй школе займаецца яшчэ ў музычнай (скрыпка).

— Ад вершаў юнае аўтаркі робіцца цяплей на душы, — сцвярджае вядомы паэт, які піша шмат для дзяцей, **Васіль Жуковіч**. — Няхай будзе шчаслівая так рана абраная ёй — ці, хутчэй, наканаваная — дарога ў Паэзію. Я сустрэўся з Валерыяй на творчай вечарыне Сяргея Новіка-Пеюна, у Доме літаратара, калі ёй пераваліла за... сем гадкоў! Была яна ў прыгожай зялёнай сукенцы і сядзела поруч з мамаю; даволі ўважліва слухала прамоўцаў, музыкаў, спевакоў. Пазней я прачытаў у „Бярозцы" (№ 9-10, 1992) яе адметныя вершы з уступам Алеся Разанава... Да Валерушкі, маленькай, не ведаючай яшчэ азбукі, пасля цяжкай хваробы, прыляцела натхненне, яна пачала была дзіўныя сказы казаць. Заўважылі гэта родныя, і тое, што дзяўчынка прамаўляла, мама ды бабуля занатоўвалі, такія *вусныя* творы. А калі Валерушка пайшла ў школу, вядома, сама пачала запісваць свае натхнёныя думкі.

Усіх здзіўляла і здзіўляе, як дзіця можа быць зусім дарослым у сваіх пачуццях і думках, і што ўдаецца яму так дасканала іх выказаць. Хто ёй „дыктуе" такія сур'ёзныя словы — Зямля, Неба, Сусвет?

— Чаму такая духоўная ноша кладзецца на дзіцячую душу? — задумоўваецца дарослы паэт Васіль Жуковіч. — Мо толькі абсалютна чыстай душы голас можа даходзіць да глыбіняў космасу чалавечай свядомасці? А можа, і да ўсявышняе сілы такая энергія даходзіць хутчэй за іншыя? Звяртаецца Валерушка да такіх субстанцый, як Зямля (*Я люблю Цябе, зямля мая ад Бога, за тое, што тут нарадзілася і жыву...*), чалавек (*Ты — грэшны! Перад Небам і Зямлёй! Перад дрэвамі і травой! Перад зверам і вадой!*), Бог (*Божа! Зрабі нас вольнымі, як птушак...*). Яе творы часам нагадваюць малітвы, прыпавесці, іншы раз згадкі, снабачанні. Валерыя Кустава ў сваёй творчасці выступае супраць чорных сілаў, асуджае зло ва ўсіх праявах. І ў жыцці яна добрая, чулая. Спявае з бабуляй народныя песні, любіць маляваць. Часта малюе добрых і злых духаў, белага і чорнага голуба. Дамінуюць у яе малюнках колеры белы, чырвоны і чорны. Яны сімвалізуюць чысціню, любоў, журбу.

**(лук)**

## Мужчынам

Мужчыны,
гэта вам гавару я, дзіця:
жанчына не можа абараніць сябе.
Хай ваша душа і сэрца
падкажуць вам,
як трэба любіць
жанчыну і дзіцятка,
а асабліва — сваё дзіцятка,
а асабліва — родную жанчыну.

Не трэба караць маленькага,
калі ён правініўся ў чым-небудзь.
Не крычыце на яго:
„Што натварыў ты?!"
Растлумачце яму,
што і як зрабіць трэба.

Бацька — вы,
бацька, вы не крычыце на маму.
Вам пасля будзе сорам,
што вы крычалі
на роднага чалавека.

Я малю, я прашу вас,
не трэба ніколі крычаць
на жанчыну,
на маці,
таму што маміны слёзы
надта горкія,
калі яна плача.

Калі вы, мужчыны,
прачытаеце мае словы,
перадайце іх іншым
і самі
не крыўдзіце аніколі
дзяўчыну,
жанчыну,
жонку,
матулю,
дачку.

**Валерыя Кустава**



*Марта Трашчотка (злева) і Ева Загон — лаўрэаткі нашых конкурсаў.*

Фота Ганны Кандрацюк

# Міфы старой Беларусі

**31. Меша**

Меша — нейкі нячысты дух. Па павер'ях беларусаў нячыстыя духі з'яўляюцца перад людзьмі найчасцей у выглядзе жывёл, а калі чалавека, дык ужо надта агіднага. Меша мае выгляд нейкай калматай чорнай жывёліны невялікага росту. Жыве ў будынінах якой-небудзь руіны, шкоды нікому не робіць, а толькі часам палохае прахожых. Гэта, кажуць, злы дух, пазбаўлены кадуком сілы, шкодзіць людзям і асуджаны на пакуты. Часам Меша прабіраецца ў жылы дом, дзе яго прытулкам ёсць падпечак, дзе ён абы-чым харчуецца. Уначы ён выпаўзае з-пад печкі і нярэдка, пасябраваўшы з сабакам, спіць з ім на падлозе. Удзень не паказваецца. Пасяленне Мешы ў жылым доме лічыцца няшчасцем. Імем Мешы палохалі калісьці малых дзяцей.

# Польска-беларуская крыжаванка № 26

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Łasica / Mogiła | ▼ | Lipa / Grupa | ▼ | Zarzut | ▼ | Bursztyn | ▼ |
| ► | | ▼ | | | | Iwa | |
| Zupa | ► | | | Wieloryb | ► | ▼ | |
| Pokrzywa ► / Kat | | | | | | | |
| ► | | | | Dar | ► | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 26**

Лава, параход, парашок, хапун, ссылка.

Храпа, рапс, парус, каханы, вош, радок.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі: **Анна Камар** з Кленік і **Марцін Лукошык** з Гарадка; сегрэгатары: **Уршуля Ляўчук** з Гарадка і **Павал Ільяшук** з Кленік.

# Кубак прэзідэнта Ломжы

Пачатак гэтага года не быў для мяне паспяховы ў танцах. Ад студзеня да чэрвеня мы не танцавалі на ніводным турніры бальнага танца. Мой партнёр з клуба „Ціп-топ" увесь час хварэў. Зламаў нагу, пасля — руку. Потым прайшоў запаленне лёгкіх, а зараз жа ізноў паламаў нагу. Ён жа яшчэ іграе ў баскетбол, а ўсё разам патрабуе добрай фізічнай формы. Каб жа яшчэ мы прынамсі маглі трэніравацца! А так партнёр часцей сядзеў на лаўцы, а я танцавала адна. Трэба было нешта рабіць. Мой трэнер разглядзеўся па клубах. У клубе „Артэля" адзін з танцораў хацеў памяняць партнёрку. Але ж яму ўжо споўнілася шаснаццаць гадоў, а мне не было яшчэ і чатырнаццаці.

Я ўсё ж рашылася паспрабаваць. Давялося пераскочыць цэлую групу: **14-15 гадоў**. Я ж дагэтуль выступала ў групе: **12-13 гадоў**, а цяпер трэба было б выступаць у групе: **вышэй 15-ці гадоў**.

Я перайшла ў клуб „Артэля" два месяцы таму і мы пачалі трэніравацца. Мой новы партнёр завецца Артур Новак. Ён вучыцца ўжо ў тэхнікуме.

Трэніраваліся мы даволі інтэнсіўна, а ў чэрвені вырашылі выступіць у турніры. Якраз 13 чэрвеня ў Ломжы меў адбыцца класіфікацыйны турнір. Гэта значыць, што можна было б атрымаць вышэйшы клас па танцах. І Артур, і я мелі клас „D", дык можна было паквапіцца на клас „C".

Але як усё гэта будзе? Два месяцы супольнага танца — гэта так мала. Я вельмі хвалявалася. Яшчэ ж ніколі не давялося мне танцаваць у „шаснаццацігодках".

Высветлілася, што хвалявалася я дарма. Танцавалася нам зусім някепска, хаця з гэтым хлопцам я выступала ўпершыню. Ён вельмі стараўся, каб выйшла добра, бо вельмі хацеў перайсці ў клас **„C"**. Нespадзявана для нас мы занялі першае месца і атрымалі кубак прэзідэнта Ломжы. Ён вельмі прыгожы і найбольшы, які там быў, бо мы былі найстарэйшай групай у гэтым турніры. Такая залаціста-бардовая чара. Зразумела, нам прызналі таксама клас „C".

Мой партнёр вельмі любіць танец. Нават збіраецца летам знайсці працу (у яго пэмёр бацька), каб зарабіць і змагчы браць лекцыі ў вядомых майстроў танца, калі мы будзем у жніўні ў танцавальным лагеры. А маюць прыехаць да нас чэмпіён Польшчы і Нарвегіі Кшыштаф Трэнтоўскі і чэмпіён Швейцарыі Губерт Пешхала.

**Адрыяна Семянюк, вуч. 7„а" кл. ПШ н-р 9 у Беластоку.**

PS. Шкада, што не маю здымка. Захварэла мая бабуля і не змагла паехаць са мной на турнір. А гэта яна рабіла мне заўсёды здымкі.

**А. С.**

# Беларускія фэсты



*Танцуе і спявае „Юрацішкоўскі кірмаш".*

**У Нарве**

Скончылася спёка першай палавіны чэрвеня. У нядзелю 14 чэрвеня г.г. неба зацягнула свінцовымі хмарамі. Ужо раніцай пачаў імжыць дождж. Адпраўляючыся на фэст у Нарве мы нервова гадалі: будзе ці не будзе магчымасці правесці пад адкрытым небам фэсты ў Нарве і Плютычах.

Неба на шчасце крышку працёрлася і ў 13 гадзін сквярык у цэнтры Нарвы запоўніўся народам. Прадстаўнікі эстрадных гуртоў рыхтавалі ўзмацняльную апаратуру.

Войт гміны Ян Іванюк адкрыў фэст, сардэчна вітаючы паслоў у Сейм Рэчы Паспалітай Сяргея Плеву і Яна Сычэўскага. Ян Сычэўскі, вітаючы ўсіх прысутных сцвердзіў, што правядзенне фэсту з'яўляецца магчымым толькі дзякуючы добраму супрацоўніцтву гмінных улад з ГП БГКТ.

Канцэртную праграму павяла нястомная сакратар Беларускага таварыства Валянціна Ласкевіч.

Першым выступіў найлепшы дзіцячы мастацкі калектыў з Ласінкі пад кіраўніцтвам матушкі Аліны Кос. Прыгожа апранутыя ў беларускія народныя касцюмы з каляровымі вяночкамі на галоўках дзяўчаткі не менш прыгожа праспявалі некалькі беларускіх песень. Затым выступіў маладзёжны дзявочы калектыў з „Пронару", пад мастацкім кіраўніцтвам Ежы Томзіка, з салісткамі Магдаленай Дудзіч і Паўлінай Пашко.

Пэўную разнастайнасць у канцэрт унёс дзіцячы танцавальны калектыў з Нарваўскага асяродка культуры.

Паспяхова выступілі таксама эстрадныя калектывы „Капры", „Ас" і „Прымакі". Асабліва спадабалася прысутным новая песня апошняга гурту „Цыганка" на словы Віктара Шведа.

З аграмаднымі перыпетыямі даехаў на заканчэнне фэсту танцавальна-харавы калектыў „Юрацішкоўскі кірмаш" з Іўеўскага раёна Беларусі. Выступленне гэтага калектыву прысутныя ўспрынялі надзвычай цёпла.

**... і ў Плютычах**

Планаваны на 17 гадзіну фэст у Плютычах папярэдзіў праліўны дождж. Быў ён так нечаканы, што калектыў „Капры" не паспеў прыхаваць сваю ўзмацняльную апаратуру і ў выніку не змог ужо выступіць. Прысутныя ад дажджу ўцяклі ў невялічкі вясковы клуб, аднак у цеснаце канцэрт не мог адбыцца. На шчасце дождж аказаўся кароткатрывалым. Людзі ізноў выйшлі на панадворак і ўселіся на мокрых лаўках. Солтыс Вольга Іванюк адкрыла фэст, затым у няпоўным складзе выступіў калектыў „Цаглінкі" са Старога Ляўкова пад кіраўніцтвам Мікалая Мяжэннага.

Затое з поўнай праграмай выступіў калектыў „Юрацішкоўскі кірмаш" з Беларусі, які праспяваў шмат беларускіх народных песень. Некаторыя з іх невядомыя на Беласточчыне, як хаця б народная меладычная песня „Гоп, гоп, чаравічкі". Выканаў ён таксама некалькі беларускіх народных танцаў. У нязвыклы спосаб развітаўся з калектывам перад яго ад'ездам дамоў Ян Сычэўскі, распіваючы з артыстамі на сцэне бутэльку шампанскага.

Эстрадныя калектывы „Ас" і „Прымакі" аб'ядналіся на сцэне, выконваючы з поспехам сваю супольную праграму.

„Мы старэйшыя і наша актыўная моладзь, пад бачным вокам нашага самаахвярнага солтыса Вольгі Іванюк, працавалі ўвесь дзень, каб добра падрыхтаваць фэст. Зрабілі з дошак лаўкі, каб змучаныя працай людзі не вымушаны былі стаяць на канцэрце, бярозавымі галінкамі ўпрыгожылі сцэну для выступленняў калектываў", — сказаў пасля канцэрта жыхар Плютыч Васіль Грыгарук. Да яго слоў трэба было б дадаць, што гасцінныя гаспадары таксама падрыхтавалі пачастунак для гасцей, якія адбыўся ў мясцовым клубе.

**В. Ш.**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# Аднак шкада традыцыі

Пра Зялёныя святкі пісала „Ніва" ад 31 мая 1998 года. Зараз і я хачу некалькі слоў дакінуць пра тое, як у маёй вёсцы праводзілася гэтае свята.

Да Тройцы кожны гаспадар рыхтаваўся быццам да Каляд ці Вялікадня. Ужо ў суботу сядзібы ўпрыгожваліся маладой бярэзінай, а ў страху засоўваліся галінкі гэтай жа бярэзіны і аеру (рачных бабак). Сцяжынкі да хаты высыпаліся жоўтым пясочкам. Жанчыны пяклі святочны пірог, гатовілі смачную ежу.

У мясцовай царкве ўсе тры дні адбываліся багаслужбы. На трэці дзень ішла працэсія (хрэсны ход). Выносіліся сталы перад хату і святар пры кожнай сядзібе спыняўся і маліўся.

Асабліва прыгожа выглядала на першы дзень Тройцы, як пастухі гналі кароў дамоў у абедзенны час. Кожная кароўка, быццам маладзіца да шлюбу, ішла з вянком на рагах увітым з галінак бярэзіны. Пастух, які наймаўся пасвіць жывёлу ў той дзень, атрымоўваў ад гаспадара за кожны вянок асобую заплату — некалькі грошаў, а таксама святочны пачастунак. З гэтымі вянкамі жывёла хадзіла ўсю Тройцу.

Перад Тройцай жанчыны адвячоркамі збіраліся і спявалі вяснянкі (да Юр'я спяваліся агулькі). Гэтыя цудоўныя спеўкі зараз і не ўспамінаюцца. І таму шкада мінулай традыцыі.

А як у гэтым годзе правялі кузаўцы Тройцу?

Ехаў я 7 чэрвеня праз вёску. Толькі пры некалькіх сядзібах можна было ўбачыць „маявіну" (так у нас называюць дрэўцы бярэзіны). Не відаць было і сцяжынак высыпаных жоўтым пясочкам і працэсіі праз вёску. Толькі багаслужба ў царкве напамінала колішнюю Тройцу. Пра ўпрыгожванне жывёлы вянкамі даўно забыліся ў вёсцы.

Зараз людзі праводзяць свята па-сучаснаму. Сустрэнуцца сваякі ў сямейным крузе пасля багаслужбы, вып'юць некалькі чарак гарэлкі, а калі хмары прыкрыюць сонца і прадвяшчаюць дождж, сена сухое забіраць едуць.

У гэтым годзе надвор'е спрыяла, таму дзень Святой Тройцы многія аднавяскоўцы правялі ў Чаромсе на „Вяселлі". Так назвалі арганізатары (Саюз украінцаў Падляшша і Гмінны асяродак культуры ў Чаромсе) агляд мастацкіх калектываў, які адбыўся на першы дзень Зялёных святаў (г.зн. 7 чэрвеня г.г.) у мясцовым асяродку культуры.

Калі я зайшоў у залу, яна амаль трашчала. Праграму агляду склалі лірычныя і вясельныя песні Падляшша. Кожны калектыў выконваў па чатыры песні з выключэннем мясцовай „Чарамшыны", якую гледачы па некалькі разоў выклікалі на біс.

Першай выступіла „Родына" з Дубяжына. Затым спявала Люба Салінская — салістка з вёскі Чаромха, а пасля змяняліся калектывы як у калейдаскопе: „Каліна" з Дашоў, „Вульчанка" з Вулькі-Тэрахоўскай, жаночая група з Крыўца, школьнікі з чаромхаўскай школы (якія вывучаюць украінскую мову), мясцовая „Чарамшына". Неаднойчы чуваць было з залы галасы, якія дапамагалі выканаўцам той ці іншай песні. Ды да таго ж і заахвочваў вядучы канцэрт Алэксій Заваротны, які прыехаў з Украіны з групай артыстаў з Роўнага.

Агляд закончыўся выступленнем дубяжынскіх самадзейнікаў са сцэнкай „Да шлюбу". Была маладая, спяваліся абрадныя песні, якія прызывалі бацькоў да ўспамагання, быў і каравай, якім вясельнікі пачаставалі публіку. Адным словам усё адбылося па традыцыі. Шкада толькі, што яна адыходзіць у забыццё.

**Уладзімір Сідарук**

# Незвычайнасць бульбы

Ці можна сабе ўявіць, што калісь бульбы ў нашых старонках зусім не было? Але такая была сітуацыя перад Калумбам (1451-1506), які яе з Амерыкі прывёз. Калі ва Ўсходняй Прусіі сялянам загадалі ўпершыню садзіць бульбу, яны збунтаваліся, кажучы: „Нашы бацькі, дзяды ды прадзеды гэтага «чортава зелля» не вырошчвалі, і мы не будзем!" Трэба было бунт задушыць войскам. А што цяпер мужык зрабіў бы без бульбы?

У Аравіі яна не расце, а вось у Польшчы ёй добра. Бяда, што пасля Чарнобыля нат у сярэдзіне бульбіны бывае чорная гнілая маса.

Незвычайнасць бульбы вось у чым. Прачытаў я ў чэшскім штомесячніку „Веда а живот" („Навука і жыццё"), што паводле фармакалагічных даследаванняў у бульбе ёсць субстанцыя, якая выдаляе з людскога арганізму ў вялікіх колькасцях свінец. Гэта цяжкі метал. Пападае ён у нас, галоўным чынам, з газаў унутранага згарання аўтамабіляў. Звычайна цяжкіх металаў, такіх як свінец і цэзій, наогул немагчыма з чалавека ніколі выдаліць.

Калісь я бачыў у амбулаторыі ўручную зроблены плакат з надпісам: **Праз разнастайную яду да здароўя**. Пры кайзеры немка магла прыгатовіць сто страў, у якіх галоўным кампанентам была бульба. Усе мае знаёмыя не ўмелі налічыць больш як 30 страў. Хай падляшскі калектыўны розум тутака задзейнічае...

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

# Крыначка '98

Пад такім лозунгам 9 чэрвеня арганізаваны быў у Гайнаўцы беларускі фэст.

— „Крыначка" таму, што сённяшняе свята Тройцы святкавалі мы ў Крыначцы (месцы непадалёк Гайнаўкі — А. М.), беларускі фэст у вас на „Мазурах" (названне мікрараёна горада, дзе адбываўся фэст — А. М.) таму, што тут ёсць ахвотныя слухаць беларускія песні, — сказаў намеснік старшыні Гайнаўскага аддзела БГКТ Мікола Бушко, адкрываючы фэст.

Галоўным арганізатарам фэсту быў Гайнаўскі аддзел БГКТ, а суарганізатарамі, як паведаміў Міхась Андрасюк, прадстаўнікі Беларускага саюза ў РП з Гайнаўкі. Было гэта мерапрыемства арганізаванае БГКТ, на якое не прыехала кіраўніцтва Галоўнага праўлення з Беластока.

— Фэст арганізавалі мы выключна за сродкі спонсараў. Фінансава дапамагчы адмовілася Галоўнае праўленне БГКТ з Беластока, — заўважыў намеснік старшыні Гайнаўскага аддзела БГКТ Яўген Сачко.

Каля найбольшага на „Мазурах" магазіна сабралася многа людзей. Жыхары навакольных блокаў паадчынялі вокны і павыходзілі на балконы. Можна было купіць ахаладжальныя напіткі, марожанае ці цукеркі.

Калі на сцэну выйшлі канферансье — вучні Гайнаўскага белліцэя Аня Найбук і Ігар Іванюк, дзеці падышлі бліжэй. Першымі выступілі вучні з маладзёжнага калектыву „Крапіва" Гайнаўскага дома культуры. Калі спявалі дзяўчаты са школьнага калектыву Гайнаўскага белліцэя „Знічка", спахмурнела неба. З чарговымі песнямі выйшлі на сцэну вучаніцы з бельскага калектыву „Дзявочыя ноткі". Нягледзячы на хмары ўсё больш і больш жыхароў навакольных дамоў прыходзіла паслухаць прыгожага спеву маладых дзяўчат, і толькі праліўны дождж разагнаў людзей. Пасля паўгадзіннага перапынку фэст закончылі сваім выступленнем спевакі з хору ГДК і бельскай „Маланкі".

— Дождж на Крыначку вельмі часта бывае, — заўважыў старэйшы гледач. — Рэдка, каб у гэты дзень суха было.

**Аляксей Мароз**

# Манастыр св. Ануфрыя ў Яблачыне

**Манастыр св. Ануфрыя ў Яблачыне — найстарэйшы помнік праваслаўя на памежжы Холмшчыны і Падляшша. Пабудаваны ў маляўнічым надбужанскім краявідзе, стаў сёння адным з найважнейшых цэнтраў праваслаўя ў Польшчы. У гэтым годзе манастыр святкуе юбілей 500-годдзя.**



*Уваходная брама ў Яблачынскі манастыр.*
Фота К. ВАЙЦЕЎСКАГА

### Паводле легенды

Бугам, невядома адкуль, плыла ікона св. Ануфрыя, якая затрымалася ля берага ракі, каля хаты аднаго з жыхароў Яблачына. Жыхары вёскі ўспрынялі гэта як знак з нябёсаў і праяву асаблівага зацікаўлення гэтым месцам святога, якога выява была на іконе. Вырашылі яны тады ў месцы, дзе затрымалася ікона, пабудаваць манастыр. Калі гэта было? — легенда на так пастаўленае пытанне адказвае: даўнодаўно таму.

### Манастыр узнік

праўдападобна ў 1498 годзе. Тады менавіта былі ручна перапісаны Евангеллі, якія пасля служылі яблачынскім манахам. У XVI і XVII стагоддзях Яблачын па чарзе быў уласнасцю такіх магнацкіх родаў як Богушы, Пронскія і Ляшчынскія. Манастыр перажываў у той час свой вялікі рэнесанс. Кожны з магнатаў стараўся, каб яго імя захавалі ў добрай памяці тамашнія манахі. Таму ў палове XVII стагоддзя манастыр быў уладальнікам амаль 20 тысяч гектараў зямлі.

### У час рэлігійнай вайны

манастыр у Яблачыне стаў крэпасцю праваслаўя ў Рэчы Паспалітай. Пасля падпісання Берасцейскай уніі большасць праваслаўных епіскапаў адышла пад апеку рымскага папы. Большасць вернікаў праваслаўя асталася пры сваім веравызнанні, хаця было яно забаронена дзяржаўным законам. У 20 і 30 гады XVII стагоддзя манастыр стаў адначасова кафедральным саборам холмскага епіскапа Паісія, які вымушаны быў пакінуць Холм, уцякаючы ад здзекаў каталікоў і уніятаў. Пакуль аднак манастыр знаходзіўся пад апекай праваслаўнага магната Андрэя Ляшчынскага, яго сітуацыя была даволі добрая. Але акружала яго ўжо уніяцкае мора. У 1699 годзе Яблачын увайшоў у склад латыфундыі каталіцкага роду Радзівілаў. Неўзабаве ў Яблачыне уніяцкая шляхта пабудавала сваю царкву і прымусіла навакольных праваслаўных сялян і мяшчан памяняць веравызнанне. Паменшала таксама манастырская маёмасць. Большасць зямлі была канфіскавана дзяржаўнымі ўладамі. У 1753 годзе на манастыр св. Ануфрыя напалі уніяцкія манахі і шляхта з суседняга базыльянскага кляштара. Захопнікі забралі тады большасць літургічнага начыння.

### Пад апекай расейскіх цароў

У другой палове XVIII стагоддзя сітуацыяй праваслаўя ў Рэчы Паспалітай пачала цікавіцца Расія. Інтэрвенцыя расейскіх дыпламатаў дазволіла перацярпець манахам час найгоршай анархіі, калі перасталі нават мець якое-нябудзь значэнне выйграныя судовыя працэсы. Пасля III падзелу Рэчы Паспалітай Холмшчына і частка Падляшша былі ўключаны ў склад Аўстрыі, а ў 1815 годзе апынуліся ў межах Каралеўства Польскага, якое ўзначаліў цар Аляксандр I. Праваслаўе ў Польшчы знаходзілася тады пад юрысдыкцыяй мінскіх епіскапаў. Пасля лістападаўскага паўстання 1830 года было створана архіепіскапства ў Варшаве. У 1838 годзе, дзякуючы варшаўскаму епіскапу Антонію, у Яблачынскім манастыры пачаліся вялікія будаўнічыя працы. Манастыр, які ператрываў унію, бачыўся як місійны асяродак праваслаўя ў новай палітычнай сітуацыі. У 1838 годзе была там адкрыта школа, шырока даступная таксама уніяцкім дзецям. Манастыр і школа рыхтавалі насельніцтва да вяртання ў праваслаўнае веравызнанне. У другой палове XIX ст. Яблачынскі манастыр стаў нанава цэнтрам праваслаўнага рэлігійнага жыцця Холмшчыны і Падляшша. Выконваў ён таксама важную адукацыйную функцыю, арганізуючы навучанне мясцовых дзяцей і моладзі. Дзякуючы архімандрыту Мікалаю на пачатку XX стагоддзя ў Яблачыне дзейнічала 3-гадовая школа, у якой знаёмілі таксама з агратэхнічнымі ведамі, а ў недалёкім Дратаве, дзе знаходзіўся манастырскі філіял, вялася рамесная адукацыя моладзі. Вялікая колькасць вернікаў і паломнікаў, якія наведвалі Яблачын, прымусіла манахаў у 1908 г. перабудаваць царкву св. Ануфрыя. Сродкі на новыя інвестыцыі збіраліся па ўсёй Расейскай імперыі.

### У II Рэчы Паспалітай

У 1915 г. праваслаўнае насельніцтва Холмшчыны і Падляшша падалося ў бежанства. Апусташэў таксама Яблачынскі манастыр. Іконы, званы, харугвы, літургічныя прадметы былі вывезены ў Расію. Пасля вяртання манахаў у 1918 г. большасць будынкаў была разбурана, але царква св. Ануфрыя ацалела. Польскі ўрад адабраў манахам большасць манастырскай зямлі і будынкаў. Манастыр аднак не патраціў свайго рэлігійнага значэння. Быў надалей мэтай паломніцтваў з усяго праваслаўнага ўсходу II Рэчы Паспалітай, вялася там школа для псаломшчыкаў і дыяканаў.

Падчас II сусветнай вайны манастыр патраціў нанава большасць свае культурнай спадчыны. У жніўні 1942 г. немцы падпалілі манастыр. Згарэла бібліятэка, усе гаспадарчыя і жыллёвыя будынкі. Яшчэ раз цудам ацалела царква св. Ануфрыя.

### Пасля вайны

Яблачынскі манастыр не быў у змозе падняцца з руінаў. У выніку змены дзяржаўных межаў і высялення праваслаўнага насельніцтва на захад Польшчы ўзніклі вялікія фінансавыя цяжкасці і клопаты з утрыманнем царквы. Дзяржаўныя ўлады не былі зацікаўлены існаваннем гэтага праваслаўнага цэнтра. На пачатку 1970 г. у манастырскіх руінах дажывала трое старэнькіх манахаў. Тады менавіта ўлады Праваслаўнай царквы ў Польшчы вырашылі накіраваць у Яблачын маладога архімандрыта Саву, які неўзабаве адрадзіў там манастырскае жыццё. Манахі вялі нармальную сельскую гаспадарку, адкуль бралі большасць сродкаў на рамонты і адбудову будынкаў. У 1974 годзе можна ўжо было туды пачаць пераносіны Праваслаўнай духоўнай семінарыі, у якой першымі выкладчыкамі сталі сённяшнія епіскапы Сава і Іерамія (тады Ян Анхімюк). Найважнейшае аднак, што ў Яблачын зноў пачалі кіравацца паломнікі з цэлага свету, а манастыр стаў цэнтрам праваслаўнай духоўнасці.

**Яўген Мірановіч**

# Крыж на новым храме









9 чэрвеня 1998 года здзейсніўся чарговы этап пабудовы Уваскрэсенскага храма ў Беластоку — устанаўленне крыжа. Гісторыя гэтага маладога прыхода пачалася ў 1989 годзе, калі 14 лютага быў створаны прыход для вернікаў двух кварталаў — Сонечны Сток і Зялёныя Узгор'і. 7 мая таго ж года адбылося пасвячэнне крыжа пад часовую царкву, а год пазней, 22 красавіка 1990 года — пасвячэнне новага крыжа і краевугольнага каменя пад новую мураваную царкву. І вось нядаўна мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы архіепіскап Сава пасвяціў крыж, які быў устаноўлены на новабудаваным храме. Ва урачыстаці і багаслужбе ўдзельнічалі сотні вернікаў. Крыж даўжынёю 4,5 м і вагою 250 кг выканалі рабочыя чыгуначнага прадпрыемства. „Крыж — сімвал перамогі праўды і дабра над злом", — сказаў у час урачыстасці настаяцель прыхода а. Уладзімір Цыбулінскі. Нашым чытачам прапануем фотарэпартаж Сяргея ГРЫНЯВІЦКАГА з гэтай урачыстай падзеі.

# Пачатак вайны ў Чаромсе

*(працяг; пачатак у 25 нумары)*

Многія сяляне, якія тут сядзелі, былі задаволены, што пачалася вайна. Надаела ім ужо савецкая прапаганда поўная хлусні, варожасці і несправядлівасці, якая лезла дзвярамі і вокнамі ў кожны дом, надаелі ім пагрозы арышту за неадпаведна сказаныя словы, надаела ім глядзець на дзесяткі партрэтаў Сталіна і яго паплечнікаў. А галоўнае, людзі баяліся калгасаў, ведаючы, што іх там чакае. У сяле Чаромсе саветы не паспелі сарганізаваць калгас, але націскі з кожным месяцам павялічваліся. Людзі баяліся ссылкі, як гаварылі, на „белыя мядзведзі". З сяла Чаромхі нікога яшчэ не вывезлі, але са станцыі Чаромхі забралі некалькі сем'яў і ў тым ліку нашага добрага знаёмага — мясніка Шмідкоўскага. Людзі мелі надзею, што пры немцах будзе ім лягчэй, паколькі немцы ў 1939 г. уяўляліся ім культурнымі, прыемнымі, вельмі добра апранутымі людзьмі. Часта тады яны давалі сялянам і іх дзецям шакаладкі, кансервы, а нават іхны лекар даваў хворым лякарствы. І сяляне верылі, што яны далей будуць такімі ж ветлівымі і прыемнымі.

Праз гадзіну ці дзве пачалі над намі свістаць снарады, якія, як мне здавалася, выбухалі за Кузавай. На ўсход ад вёскі Кузавы савецкія салдаты збудавалі сабе „ваенны пасёлак". Там яны стаялі. Я не бачыў, каб самалёты яго бамбілі. Але цяпер пачалі яго абстрэльваць з гармат, мажліва, з-за Буга. Абстрэльвалі яго амаль цэлы дзень. Нямецкія самалёты яшчэ некалькі разоў надляталі над Чаромху, кідалі бомбы, але пажар памалу заціхаў. Калі я ўпоўдзень вярнуўся дамоў, даведаўся ад бацькоў, што ўсе савецкія служачыя вельмі перапужаліся і кінуліся на станцыю Чаромху арганізаваць цягнікі, у якіх мелі ўцякаць на ўсход. У сельсавеце не паспелі нават спаліць дакументы і на другі дзень сяляне знайшлі там спісак сем'яў, якія сельсавет прапанаваў вывезці ў Казахстан, калі не захочуць уступіць у калгас. У спіс занесены быў і мой бацька з сям'ёй. А яму ўжо тады было амаль 59 гадоў. Ён не перажыў бы гэтай вывазкі. Хацелі пакараць яго за гэта, што ён пры Польшчы атрымоўваў пенсію, якую Польшчы перасылаў Савецкі Саюз за працу на чыгунцы ў час царскай улады і за гэта, што быў пры Польшчы некалькі гадоў солтысам у вёсцы і радным у Гміннай радзе ў Кляшчэлях.

На другі дзень было ціха. Нават немцы пакінулі бамбіць станцыю. На трэці дзень ранкам пачулі мы на шашы стральбу дзесьці на дарозе Дашы—Кляшчэлі. Сабраліся мы ўтраіх і неабдумана пастанавілі пайсці і паглядзець хто гэта страляе. На дарозе ўбачылі мы нямецкую разведку з кулямётам на коннай павозцы. Яна прастрэльвала кусты, якія раслі на поўнач ад дарогі. Пры павозцы было трое салдат. Калі немцы пабачылі нас, адзін з іх гучным голасам крыкнуў: „Raus!" і пагразіў нам. Мы хутка схаваліся ў лес. Цяпер мы пабачылі, што немцы ўжо прыбліжаюцца да Кляшчэляў, але здзівіла нас павозка і коні. У 1939 г. я не бачыў, каб немцы везлі коньмі кулямёт на павозцы. Немцы ехалі толькі на машынах, матацыклах і танках. На чацвёрты дзень мы пачулі бой, які, здаецца, быў дзесьці ля Дубіч-Царкоўных. Пасля запанаваў спакой. Усюды было безладдзе. І тады многія сяляне кінуліся на станцыю Чаромху грабіць дабро, якое саветы аставілі ў савецкіх таварных вагонах. Яно было прызначана немцам. Саветы мелі былі яго вывезці ў Германію згодна з гандлёвым дагаворам. Чаго там не было: некалькі саставаў маскоўскай гарэлкі, некалькі вагонаў бавоўны, а таксама некалькі вагонаў цюкаў белай шэрсці з трусоў ангорскай пароды. Акрамя таго былі яшчэ керасін, адзенне, бялізна. Людзі грабілі і вазілі дабро падводамі. Многія зрабілі сабе запасы гарэлкі, бавоўны і белай, як малако, шэрсці на некалькі гадоў. Сяляне грабілі вагоны некалькі дзён, бо на станцыі не было немцаў. Яны пайшлі наперад другой дарогай. Калі паявіліся немцы, усе вагоны былі ўжо пустыя. Першыя азнакі нямецкай улады я пазнаў па расклееных афішах, на якіх немцы гразілі, што за забойства нямецкага салдата пагражае знішчэнне цэлай вёскі разам з яе жыхарамі. Смерць пагражала таксама жанчыне, якая заразіць венерычнай хваробай нямецкага салдата. На чацвёрты дзень я даведаўся, што калі немцы ўвайшлі ў Кляшчэлі, то расстралялі сыноў нашых знаёмых яўрэяў. Саветы перад вайной узялі іх у армію і калі пачалася вайна, яны ўцяклі і вярталіся дамоў. І ў самім мястэчку іх злавілі і расстралялі.

Людзі расказвалі, што ў савецкай арміі была здрада. Быццам бы камандны састаў ля самой граніцы арганізаваў ноччу перад вайной баль. Калі немцы пачалі наступаць, многія бункеры былі пустыя і толькі частка салдат паспела ўвайсці ў бункеры і адбівацца ад немцаў. Нейкія бункеры бараніліся пару дзён. Людзі гаварылі, што самалёты на аэрадроме ля Бельска-Падляшскага былі быццам бы дзень перад вайной разабраны для змазкі і ўсе яны былі знішчаны нямецкімі бомбамі. Ніводзін з іх не падняўся ўверх.

Немцы пайшлі хутка наперад і многія атрады і батальёны савецкай арміі аказаліся ў тыле ворага. Многія з іх здаваліся немцам без выстралу, не ведаючы што іх чакае ў няволі. Каля дарогі Дашы—Кляшчэлі паявіўся савецкі батальён. Калі маёр даведаўся, што немцы ўжо занялі Кляшчэлі і пайшлі наперад, даў салдатам прыказ знішчыць хутка зброю і самастойна прабірацца на ўсход. Ля дарогі ў лесе салдаты аставілі трактар з гаўбіцай і снарадамі. У гаўбіцы знішчылі толькі ўдарнік, каб нельга было страляць. Са снарадаў пасля пастухі коней высыпвалі порах і яго падпальвалі. Часам распальвалі касцёр, укідалі туды снарад, а самі хаваліся ў роў на другім баку дарогі. Усюды па лугах і ў лясах ляжалі снарады ад гранатамётаў. Пасля ад такога снарада загінуў адзін знаёмы з нашай вёскі. Ён узяў яго ў рукі і пачаў страшыць дзяўчат і хлопцаў. Калі яны ўцякалі ад яго, а ён бег за імі, раздаўся выбух. Ён загінуў на месцы, а адзін хлопец быў лёгка паранены.

У лесе асталося многа вінтовак і кулямётаў, а таксама гранатаў. Пасля мы ў лесе стралялі і кідалі гранатамі, схаваўшыся ў роў. Ляжалі кучы патронаў і медных узрывальнікаў для гранатаў. Адзін знаёмы чалавек пажылога ўзросту ўзяў гранатны ўзрывальнік думаючы, што гэта асадка для пісання. Прынёс яго дамоў і шылам хацеў ачысціць знаходку ад балота. Раптам выстраліў пістон, але ўзрывальнік не ўзарваўся і чалавеку нічога, апрача перапалоху, не сталася.

Некалькі тыдняў пасля пачатку вайны ў вёсцы аб'явілі, што будзе сход. Замест бацькі пайшоў я. Прыехалі два нямецкія салдаты і адзін афіцэр, які вельмі чыста гаварыў па-руску. Сказаў, што прыехаў ён сюды, каб сяляне выбралі новую сельскую ўладу — солтыса. Сяляне вёскі Чаромха выбралі солтысам Якіма Шатыловіча. Правёў ён на гэтай пасадзе ўвесь час акупацыі. Часта прыязджаў да яго бургамістр Кляшчэляў, які гаварыў па-польску і любіў гарэлку. Спатрэбілася тады маскоўская гарэлка з савецкіх вагонаў.

**Дзмітры Шатыловіч**

**Апанас Цыхун**

# Пройдзеныя шляхі-пуцявіны

*(запіскі, успаміны, аўтабіяграфія)*

**Частка IV**

Расправіўшыся з паліцыянтамі Казімір Рагачэўскі скрыўся. Пры дапамозе сваіх сяброў ён быў дастаўлены ў вёску Мазанава Мастоўскага раёна. Паліцыя выходзіла з сябе, шукаючы яго, але поспехаў не мела. Само імя Казіміра Рагачэўскага наводзіла на паліцыянтаў і правакатараў жах. 3 сакавіка 1933 года камендантам паветовай паліцыі быў аб'яўлены ўсеагульны розыск Казіміра Рагачэўскага. Польскія ўлады кожнаму, хто пакажа месца яго прабывання або даставіць яго галаву, абяцалі выплаціць 1 000 злотых. Ва ўсе камендатуры (Аўгустаў, Саколку, Ваўкавыск, Беласток, Сувалкі, Шчучын, Ліду, першы і другі камісарыяты г. Гродна) былі высланы афішы з фатаграфіямі Казіміра Рагачэўскага, якія былі расклеены ў відных месцах.

Становішча Казіміра было цяжкім. Падпольшчыкі спланавалі пераправіць яго ў БССР. Я асабіста знаў яўрэя з мястэчка Індуры, якому было дадзена заданне перавесці Казіміра Рагачэўскага за граніцу, але гэта яму не ўдалося.

Прайшло нямала часу, пакуль пры дапамозе правакатара, уладам удалося, нарэшце, устанавіць месца, дзе хаваўся Рагачэўскі. 16 сакавіка 1933 года польская паліцыя з Гродна, Індуры, Лунны, Скідаля акружылі вёску Мазанава. Тайныя агенты з паліцыянтамі спачатку накіраваліся да хаты рэвалюцыянера Івана Бычка, але там Рагачэўскага не знайшлі. Георгій Капыцкі, які даў сховішча Казіміру ведаў, што неўзабаве акружаць і яго сядзібу, што становішча складваецца вельмі цяжкае.




*Казімір Рагачэўскі пасля страшэнных допытаў у аддзеле польскай следчай паліцыі ў Гродне. 28 красавіка 1928 г. У гэты час, кажуць, у 11-ай камеры гродзенскай турмы сядзеў і Браніслаў Тарашкевіч.*

Ён падбег да месца ўкрыцця Рагачэўскага і папярэдзіў яго. Хацеў быў падвесці яму каня, каб Казімір вярхом на ім непрыкметна праскочыў у лес, але ўжо было позна. Сотні паліцыянтаў і тайных агентаў з сабакамі акружылі хату Капыцкіх. Розныя шпікі пачалі разбіраць хату. Паліцыянты сякерамі секлі сцены. Георгія Капыцкага і яго жонку Алену катавалі, але яны ні слова не сказалі пра Рагачэўскага.

Аднак, праз некаторы час паліцыі ўдалося трапіць на месца, дзе хаваўся Казімір Рагачэўскі. Пачалася страляніна. Камендант Луненскай паліцыі Вронскі безупынна крычаў дрыжачым голасам: „Здавайся, Рагачэўскі! Вшыстко скончоно! Выходзь!.." Але Рагачэўскі не думаў здавацца. Ён не меў магчымасці бачыць сваіх ворагаў з укрыцця. Страляў наўгад. Паліцыянты туліліся да сцен хаты, хаваліся за вуглы, паўзлі па зямлі. Некаторыя з іх зноў падалі. Раптам, адзін з іх спрытна падабраўся бліжэй да месца ўкрыцця і кінуў у праход слёзатачывую гранату. Казімір пачуў едкі пах дыму, сціснула яго за горла, пацякі слёзы. Ён зразумеў, што засталося не доўга жыць. Слёзатачывы газ дзейнічаў... Рука Казіміра раптоўна падняла да скроні дула нагана з апошнім патронам. Пачуўся выстрал... І Казіміра Рагачэўскага не стала. Сумная вестка абляцела прыціхлыя беларускія вёскі, сёлы, мястэчкі і гарады. Не стала баявога хлопца, змагара за лепшую долю і волю беларускага народа. Польская паліцыя святкавала перамогу, трыумфавала...

Цела Казіміра Рагачэўскага паліцыянты выцягнулі з укрыцця. Прывязалі да дрэва, фатаграфавалі, насміхаліся. Затым палажылі на грузавую машыну і прывезлі ў Гродзенскую дэфензыву. Аб гэтым стала вядома падпольшчыкам. Яны ноччу праламалі краты, узялі цела Казіміра Рагачэўскага і пачалі выносіць. Аднак ахова не спала. Адкрыла агонь. Падпольшчыкі вымушаны былі пакінуць труп Рагачэўскага. Ім не ўдалося вынесці цела свайго баявога чалавека і належным чынам пахаваць. Па загаду польскіх уладаў цела Казіміра Рагачэўскага было спалена.

Доўгі час баявыя яго сябры, блізкія, знаёмыя не маглі змірыцца з тым, што так жорстка расправілася польская паліцыя з Казімірам Рагачэўскім. Па вечарах хлопцы і дзяўчаты ў вёсках збіраліся пад хатамі, спявалі аб ім невядома кім складзеную песню, у якой услаўлялася яго імя. Прайшло шмат часу з той пары. Не стала яго баявых сяброў, маладых хлопцаў, але памяць аб ім жыве у народзе. У 1969 годзе ў вёсцы Зарубічы, на доме, у якім нарадзіўся і жыў Казімір Рагачэўскі, была ўстаноўлена мемарыяльная дошка, на якой значацца словы: „Тут нарадзіўся і жыў адважны рэвалюцыянер, які ў няроўным баі супраць белапалякаў загінуў 3 сакавіка 1933 года ў вёсцы Мазанава Мастоўскага раёна".

# ВЕР — НЕ ВЕР

Шаноўны Астроне! Адкажы мне, калі ласка, на мае сны, што яны могуць значыць, чаго мне чакаць.

Сніцца мне вялікі прыгожы дом, які стаіць быццам у нейкім парку, сярод зелені. Дом драўляны, але ў вельмі элегантным стылі. Ён цёмна-карычневага колеру, быццам бы пакрыты лакам. Вокны ў ім вялікія, прыгожыя, густыя рамы — вокны выглядаюць, быццам у клетку.

Я адна ў гэтым доме, але ведаю, што гэта мой дом. Раптам узнімаецца вецер. Будзе навальніца?.. Я пачынаю зачыняць дзверы. Іх некалькі. Прабую зачыніць з аднаго боку дома, а яны ламаюцца, развальваюцца на дошкі, замок псуецца. Я — да другіх дзвярэй, ды і тут тое самае. Яны развальваюцца, як і тыя першыя.

Дарма я мацавалася з дзвярыма. Кожны ж можа і так увайсці ў гэты дом. Што я тады зраблю?

Прачынаюся з палёгкай. Дзякуй Богу, сон скончыўся.

А праз пару дзён сніцца мне ізноў нейкі дом. Ізноў ён драўляны, пабудаваны з бярвенняў. Ізноў я адна ў вялікай хаце. Баюся. Ізноў пачынаю замыкаць дзверы. Я замыкаю іх на ключ, а яны ізноў адчынены. Адны, другія, трэція. А я нічога не магу зрабіць, каб абараніцца ад эвентуальнага прышэльца.

Скажы, Астроне, што будзе?

**Яня**

Яня! Ты зноў са сваімі катастрафічнымі снамі. Што ж можна табе сказаць, чым пацешыць... Калі сніцца шырока адчыненыя дзверы, дык ведай, што можна спадзявацца поспеху і сустрэчы з мілымі людзьмі.

Калі сніцца зачыненыя дзверы, ты можаш мець непрыемнасці, расчараванні.

А твае дзверы, Яня, развальваліся ў цябе на вачах, хаця ты змагалася, пэўна, з ветрам, стараючыся іх пазамыкаць. Ды, зрэшты, уся гэта перадначальнічная сітуацыя ў першым сне не прадвяшчае нічога добрага.

Што датычыцца другога сну, дык і ён прадвяшчае табе кепскае. Такія сны, даражэнькая, прадвяшчаюць нейкія непрыемнасці, а нават і хваробу.

**Астрон**

# Конкурс „Нівы”

Рэдакцыя „Нівы” аб'явіла конкурс ведаў пра Беларусь. Пачынаючы з 23 нумара ад 7 чэрвеня, у дзесяці чарговых нумарах нашага штотыднёвіка змяшчаем пытанні па геаграфіі, гісторыі і культуры Беларусі. Побач друкуем тры адказы, сярод якіх правільны толькі адзін. Правільны адказ трэба пазначыць крыжыкам.

Чытачы, якія да 23 жніўня 1998 г. дашлюць у рэдакцыю дзесяць талонаў з правільнымі адказамі, возьмуць удзел у жараб'ёўцы ўзнагарод: першая — 500 зл., другая — 300 зл., дзве трэція — па 100 зл., дзве падпіскі „Нівы” на 1999 год, два энцыклапедычныя даведнікі па культуры Беларусі. Спісак узнагароджаных будзе апублікаваны ў „Ніве” ад 30 жніўня.

Талоны просім дасылаць усе разам у адным канверце з паметкай: *Конкурс „Нівы”*.

**ТАЛОН № 4**

## Конкурс тыднёвіка *Ніва*

Цэнтральная вуліца Менска гэта

- ❑ праспект Дзяржынскага
- ❑ праспект Машэрава
- ❑ праспект Скарыны

# Сардэчныя ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Не ведаю, якога хлопца выбраць сабе на мужа. Адзін з іх доўга рабіў выгляд „які то вуон е”: хваліўся сваімі поспехамі ў дзяўчат (усе яны быццам гублялі штонікі, калі бачылі яго), любіў разваліцца на крэсле, раскарачыцца, альбо залажыць на крэсла нагу. Хадзіў заўсёды ў надта цесных джынсах і вельмі хутка ездзіў на машыне.

Як жа я магла падумаць, што ўсё гэта буфанада... Пры першай нашай сустрэчы я адразу зразумела, наколькі я памылялася. Хлопец у пасцелі быў зусім слабы: замест таго, што шукаюць у мужчын жанчыны, дальбог, быў у яго нейкі эрзац. Але не скажу, хлопец быў пры ўсім гэтым даволі ахвочы да кахання. Ну, і прыгожы быў, халера. З такім было паказацца не сорам.

Я выпрашыла часамі паказацца з ім. Як мне зайздросцілі сяброўкі, калі бачылі нас разам! А я, думаеш, ім сказала, што няма чаго зайздросціць?! О, не! Няхай памучацца. А што мне шкодзіць пахадзіць з прыгожым хлопцам.

Неўзабаве лёс звёў мяне з другім хлопцам. Не, Сэрцайка, ты не падумай хоць, што я з абодвума адразу... Я з тым першым была толькі адзін-адзіны раз. Мы пасля толькі так сустракаліся.

Ну, дык гэты другі, скажу папраўдзе, не быў такі прыгожы і статны, а хадзіў у звычайных джынсах, нічога не падкрэсліваючы, ды і наогул быў вельмі скромны. Дальбог, ніколі я не думала, што ў яго такія „схаваныя” валёры. Аддалася я яму на імянінах у сяброўкі. Шок! У пасцелі быў проста неверагодны. Мы пачалі сустракацца сур'ёзна.

Часамі ён прыходзіць да мяне, а калі-некалі я да яго. Усё залежыць ад таго, чыіх бацькоў няма ў хаце, ды ці ў адну пару мы маем свабодны ад занятках час (вучымся ў адной вышэйшай школе).

Аднойчы мы былі ў яго. бацькі выйшлі кудысьці і мелі вярнуцца каля дванаццатай. А тут на табе: каля дзесятай званок у дзверы, а мы якраз кахаемся. Божа, што рабіць? Мой любы накінуў на сябе халат, хоча ісці адчыняць дзверы,-а тут няма як паказацца. Што з таго, што накінуў халат, калі ён ніяк суняцца не можа. Ну, і прыдумаў. Узяў пояс ды падперазаўся, захапіўшы і свой „валёр”. І так неяк выйшаў да бацькоў і адчыніў ім дзверы. А што я ў яго была, яны за гэта не гневаліся. Ну, дык мы сваё прадаўжалі. Кажу табе, мне з ім вельмі-вельмі добра...

Але ж і першы хлопец захаджвае да мяне. Часамі я і з ім кудысьці пайду. Прыгожы, чорт. І думаю — не магу прыдумаць, што рабіць, які з іх будзе лепшы муж: прыгожы, але слабы ў пасцелі, ці брыдкі, але добры ў сексе. А як ты думаеш, Сэрцайка?

**Эва**

Эва! Ехалі цягнікомі дзве жанчыны і гаварылі пра свой ураджай. Адна кажа: „Міленькая мая, у мяне сёлета агуркі зусім не выраслі, во тацюленькія ўсяго!” — і паказала на свой мізінец. Другая здзівілася: „А ў мяне дык во якія параслі!” — і паказала на палову сваёй рукі. Сядзеўшая насупраць глухаватая старэча не вытрымала і ўмяшалася: „Мае вы дзяўчаткі, такі ці такі — гэта не важна, галоўнае, каб чалавек быў добры”.

Даруй мне гэты жарт і падумай, памяркуй ды выбяры, што для цябе ў жыцці важнейшае, каб быць шчаслівай. А наогул мо варта яшчэ пачакаць да таго часу, калі адзін-адзіны заслоніць табе свет і праблемы выбару не будзе.

**Сэрцайка**

PS. Гэты ліст праваляўся ў мяне ладных пару гадоў, ад таго часу, калі вялася ў нас дыскусія на тэму „габарытаў”. Няхай даруе мне чытач гэты даволі „моцны” акцэнт на канец. Паміраць — дык з музыкай!

А справа ў тым, што рубрыка „Сардэчныя тайны” сёння заканчвае сваю шматгадовую дзейнасць. Праўдападобна, прыдумаў яе, як амаль усе іншыя рубрыкі, рэдактар Георгій Валкавыцкі, які 32 гады кіраваў „Нівай”. Рубрыка паявілася амаль у самым пачатку існавання газеты і рэдагавалі яе розныя людзі. Мне давялося яе весці на працягу апошніх 16 гадоў.

Дзякую ўсім за ўдзел у гэтай забаве, а найбольш чытачам. Ці камусьці гэта рубрыка падабалася, ці хтосьці пляваўся, але кожны мусіў найперш яе прачытаць. Чыталі ж яе не толькі вучні, але і 90-гадовы дзядок Галіны Рамашкі.

Усё для людзей і, калі дзе ў чым Сэрцайка змагло камусьці дапамагчы, падняць у яго настрой, параіць у клопатах, палепшыць самаадчуванне настолькі, каб ён мог цешыцца жыццём у кожнай яго праяве, гэта была б для мяне вялікая радасць. Але калі хтосьці, узяўшы ў рукі „Ніву”, мог толькі бескапотна пасмяяцца ці падумаць пра секс, — таксама добра.

Маё начальства вырашыла гэту рубрыку ліквідаваць, паколькі бракуе месца на старонках „Нівы” для многіх добрых матэрыялаў, якія ляжаць і марнуюцца.

Вядома, па колькасці матэрыялаў я не магу спаборнічаць з маладым і юрлівым Андрэйкам Гаўрылюком, ды і ў эратычных справах ужо не тое. Дык можа гэта і лепш...

У многіх месцах, дзе я паяўлялася, чамусьці мяне падазравалі ў рэдагаванні „Сардэчных тайнаў”. У Амерыцы першы пра гэта запытаў спадар Вініцкі з Лос-Анжэлеса, у Менску — дэпутат Вярхоўнага Савета, заўсёды пыталіся, калі я бывала ў камандзіроўцы на вёсцы, або нехта прыязджаў да нас у рэдакцыю.

Сёння прызнаюся: гэта была я, „распусная, страшная і бессаромная кабета”, як напісала адна з чытачак, я, ваша

**Ада Чачуга**

# Гутарка аб рэформах

**Адгалоскі**

Nawiązując do artykułu zamieszczonego w nr 21 „Niwy” na stronie 3 pod tytułem „Hutarka ab reformach” przygotowanej przez redaktora Pana Aleksieja Moroza ze spotkania Pani Wojewody, Pana Kuratora Oświaty w Hajnówce z przedstawicielami samorządów stwierdzam, że ogromnie zaskoczyła mnie informacja Pana Kuratora Oświaty o tym, że to dyrektor ZPDN Jan Zieniuk zaproponował przeniesienie księgozbioru z bibliotek pedagogicznych do szkół.

W ramach sprostowania informuję, że to Kurator Oświaty pismem z dnia 23.04.1998 r. polecił dyrektorowi ZPDN w terminie do dn. 15.05.1998 r. przygotować propozycję rozmieszczenia księgozbioru bibliotek pedagogicznych w Dąbrowie Białostockiej, Łapach, Mońkach, Siemiatyczach (pismo dostarczono do wglądu redakcji).

W odpowiedzi na to odbyłem konsultacje z przedstawicielami samorządów i związków zawodowych działających w środowisku nauczycielskim w tych 4 rejonach, na których wszyscy uczestnicy jednoznacznie podtrzymali propozycję dyrektora o pozostawienie bibliotek pedagogicznych w aktualnym stanie.

**Dyrektor dr Jan Zieniuk**

# Не варта памагаць

Жыхар Варшавы Якуб С. чакае ў Беластоку судовага працэсу. Перад аблічча беластоцкага правасуддзя прывяла яго спроба дапамагчы невядомаму зладзею перапрáвіць крадзены аўтамабіль у Беларусь. 28 лістапада мінулага года ўслужлівы варшавяк прыехаў на шыкарнай машыне маркі „Таёта” ў Кузніцу з намерам перасячы ўсходнюю мяжу. У час кантролю выявілася, што аўтамабіль з'яўляецца ўласнасцю тэлеканала TVN, а шафёр карыстаецца фальшывымі дакументамі.

„Ці варта быць услужлівым?” — разважае цяпер кантрабандыст, чакаючы прыгавору.

*Ніва*, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*

E-MAIL: niwa@kurier-poranny.com

INTERNET: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)

Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).

Drukarnia: „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Міратовіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1998 r. upływa 5 września 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Нiўка

## Жар бульбаша

Наведаў я Музей нарвандэртальскага чалавека (*Homo sapiens narvanderthalensis*). Суперсучасны той музей: у галоўнай экспазіцыйнай зале гідам стаяў робат. Стаяў ён на гусеніцах і нагадваў кропка ў кропку двухстволавую зенітную самаходную установку ЗСУ-57-2, адно толькі заміж ствалоў пагрозліва пазіралі бліскучыя аб'ектывы. Нацэліліся яны ў мяне:

— *Вот дую вант**, — пачуў я трaскучы голас, а затым пагрозлівая машына закалыхалася, скрыгануўшы гусеніцамі.

— Па-савецку жалезішча азываецца, — падумалася мне, хаця апошняга слова я спачатку не асэнсаваў і на хвіліну задумаўся пад пільным наглядам бліскучых аб'ектываў...

— Ванда! — азарыла мяне. Гэта пра легендарную дачку цара Крака, якая не захацела выходзіць за германца, трызніць па-саксонску жалезішча! Яе, пачуўшую на вячорках ад грамады тамашніх скальдаў словы „Бульбаш бульбу варыць, а ноч цэлу жарыць", ахапіў такі жар да таго легендарнага жар-бульбаша, што ў Віслу кінулася гасіцца.

Легенда пра бульбаша жыла ў Кракаве, дзякуючы скальдаўскаму фальклору, і надалей, і пару стагоддзямі пазней другая кракаўская жаночая знатнасць, каралева Ядвіга, таксама заўпарцілася да бульбаша. Вучоныя тамашняга толькі што заснаванага універсітэта вызначылі месца пражывання бульбашоў недзе пад Вільняю; тады — у дакалумбавы перыяд — у Кракаве яшчэ не ведалі, што бульбашы жывуць у Андах, у ваколлі Мачу-Пічу. Падаліся тады сталічныя кашталяны і рыцарства ў дрымучыя занарвандэртальскія лясы шукаць бульбаша, каб хаця чарговая кракаўская пані не нырнула на дно Віслы. І прывезлі: маленькага, але ўдаленькага! Ён не толькі тэўтонцам мячом і агнём выпаліў ахвоту да кракаўскіх дамаў, але яшчэ і тым дамам *надолбал* такога жару, што палымнелі яны і гаслі заўчасна!

У гэтакім задуменні апынуўся я раптам перад зашклёнаю вітрынай. Ляжаў там адзін віток нейкага заржавелага дроту.

— Гэта археалагічныя рэшткі ад прагарэлай тэорыі пружыны бульбашоў, — зноў прамовіла да мяне жалезішча. — Тая пружына даводзіла да жару... Сікрэт райтэр**.

— Сакрэтны яздок? — здзівіўся я.

— Райтэр! — заскрыгітала постзенітка, і лазерныя праменні са столі заігралі па кнізе побач заржавелага дроту.

— Невядомы пісьменнік, — здагадаўся я і глянуў на паказаны тэкст; на вітрыннай таблічцы красавалася, што гэта нейкія „Хронікі". Пад датаю 14 лістапада ў тэксце стаяла: „Бракуе матэрыялу на літаратурную старонку *Белавежа*... Слабыя аўтары шмат пішуць, але на ўзроўні *Парнасіка*... Ёсць некалькі добрых, але ад іх рэдка калі што атрымоўваю. І так ужо будзе..."

Банальна вядомыя прычыны дэкадансу, — з такою думкаю падаўся я да наступнай вітрыны, пад шклом якое відней тэкст: „W «Niwie» przestała się ukazywać comiesięczna kolumna literacka Stowarzyszenia Literackiego «Białowieża». Taką decyzję podjęły władze Stowarzyszenia, gdyż — ich zdaniem — obecny charakter tygodnika nie sprzyja promowaniu i prezentowaniu białoruskiej twórczości literackiej".

— Аўтар гэтага таксама невядомы? — спытаў я жалезішча. Замiж аўдыёадказу над вітрынаю паказалася прастаравая партрэтная галаграма аўтара — нейкага барадатага смешнага ягамосця. Твар здаўся мне адкульсьці вядомым...

— Вільям? Эрнест? Мікола? — перакопваў я моўчкі сваю памяць.

— Юрка! — пазнаў урэшце ягамосця я. — Юрка з-пад Крынак!

Супакоіўшыся, убачыў я побач тэксту абпаленыя выкапнёвыя бразготкі і дзве падвескі. Пытальна глянуў я ў бок бліскучых аб'ектываў.

— Гэта так аўтар сабе іх крапівою-жыгучкаю прыпёк, — не чакаючы вуснага пацвярджэння пытання адказала мне жалезішча. — Ён збіраў крапіву, загортваў яе ў газету і на рыначку ў Гарадку прадаваў яе пажылым жанчынам замiж расады памідораў. А яны, з гарачымі румянцамі на тварах, тупалі нецярпліва туп-туп-туп, спадзеючыся прачытаць у той газеце вучоныя артыкулы пра бульбу сёння і бульбу ўчора ды пра жар-бульбашоў — Дон-Хуанаў з-пад Мачу-Пічу. Раскрыўшы газету, апякаліся яны, бедненькія, жыгучкай і галасілі сваім мужам: „Мой міленькі — жар, жар, жар!", а тыя, немачупічныя ўжо, абвінавачвалі газету ў непрыстойным іх пакаленню змесце; кабеты таксама, прыастыўшы, спаганялі сваю злосць на газету.

— Кракаўскія Ванда з Ядвігаю таксама прытупвалі, калі летуцелі пра бульбашоў, ды толькі ахалі і охалі, бо газет тады яшчэ не было, — заўважыў я постзенітцы, адыходзячы да чарговай вітрыны.

А там ляжаў гадзіннік ды некалькі сухіх мух блізу нейкай плямкі.

— А гэта што за археалагічныя знаходкі? — спытаў я жалезішча.

— Ры-цар быў калісь слаўны, Джон Хуан з-пад Страблі. Ціхачом ваяваў, мякkenька, нічога ў яго не пружынілася і не бразгатала, бо вельмі праведны быў, таму нават і кавалачка іржы акрамя гадзінніка не асталося. Але змагаўся ён непахісна, вельмі шчыра і сардэчна, супраць непрафесійнасці, супраць тэндэнцыйнасці, за рост узроўню, за рост колькасці... Адным словам: за ўсё прагрэсіўнае, супраць усяго цемрашальскага. Ры-цары ён вельмі палымяна і з вялікім напалам і жарам, і распаліўся да такой ступені, што сыкнуў, пшыкнуў, і асталася ад яго толькі плямка. І гадзіннік.

— Спяшаўся?

— Гадзіннік?

— Ён, ры-цар Джон-Хуан.

— Не заўсёды, але быў вельмі акуратны: стопрацэнтна ачысціў усё навокал з непрафесійнасці і тэндэнцыйнасці — ніхто не астаўся, нават ён сам.

— Вельмі шчыра і сардэчна дзякую вам, — сказаў я на развітанне жалезішчу, — вельмі цікава ў вашым музеі.

— Запрашаю яшчэ, у кожны час: музей працуе штодня кругласутачна.

**Адам Маньяк**

* *What do you want?* (англ.) — Чаго вам трэба?

** *Reiter* (ням.) — яздок; *writer* (англ.) — пісьменнік.

Фрашкі пра нашых

## Леў

— Мае рай на зямлі! — зайздросна так меркавалі,  
Зіркаючы на шчасце, красу і каханне Лявона.  
Быў ён ільвом, калі грошы прыбытак давалі.  
Асунуўся, — мядзяк зазвінеў пустазвонам.  
А, папраўдзе, згубіў тое шчасце не ўпотай:  
Усе бачылі, як Лявона на дно валачыла  
Даўганогая зграбная дзеўка Дурнота  
Ды Распуста; сам жа йшоў за той мілай.

## Які канец, такі пачатак

Разгарэлася дыскусія ў нашым асяроддзі:  
„З якога боку тыднёвік „Ніва" пачынаецца?"  
Бяру ў дыскусіі голас, каб усё палагодзіць  
Ды не крыўдзіць нікога. Вось як яно маецца:

„Ніва" з дванаццатай старонкі мусіць пачынацца,  
На ёй найбольшы гонар і мне друкавацца.  
Калі хто нязгодны, — давайце спрачацца  
І на ніўскіх старонках разам сустракацца!

**Вандал Арлянскі**

## Адрымснуўся

Не варта ў вершах хваліць нейкага дабрадзея —  
Будучага ліхадзея!  
Бо за хвальбу падзякуе „горача"  
І з чалавека зробіць нешта падобна да сволачы.  
З маіх вершаў ён „звальваецца" з ног.  
Баюсь, каб не грымнуўся аб парог:  
Страціць розум і не пачуе маёй зрыфмоўкі з бонкам,  
Што звучыць непрыемна і звонка.  
А яго „фрашкі"?  
— Падобны да караеда-„манашкі".  
Любіць падмачыць людскую годнасць балюча,  
Смярдзюча-ванюча.  
І ён не „доктар" творчай удрэнкі.  
Відаць, гэта чалавек маленькі.  
Дык няхай яго Бог асцерагае,  
Бо ён „Ніву" вадою залівае.  
Няхай хваляць яго паэты з прызвання,  
Калі галава ў яго не бараняя.  
І я патраплю адрымснуцца,  
Як і адгрызнуцца.

**Мікалай Панфілюк**

## Крыжаванка

**Гарызантальна:** 3. прыняццё на работу, 8. стрыжань курыльнай люлькі, 9. гультай, 10. скандаліст, 11. трыганаметрычная функцыя, 13. крайняя дошка, 15. мусульманскі змагар, 16. мусульманскі ўладар, 20. горад у Японіі, бамбардзіраваны 9 жніўня 1945 г., 22. калючая кустовая расліна з дробнымі чырвонымі ягадамі, 23. член каталіцкага манаскага ордэна „Таварыства Ісуса", 27. скаварада, 29. сталіца Албаніі, 30. месца для прапаведніка, 31. выпас, 32. ратазей, 33. азотнакіслае серабро, пякельны камень, 34. расліна са сцяблом у форме саломіны.

**Вертыкальна:** 1. матэрыял пасля вулканізацыі каўчуку, 2. горад над Чорным морам у Грузіі, 4. асоба, прызнаная віноўнай у злачынстве, 5. царкоўны аскет, 6. вышэйшы калегіяльны орган царквы, 7. духмянасць, 12. біскуп без епархіі, 14. перайначанне, 16. промах, 17. член адной з палат брытанскага парламента, 18. першабытная рэлігійная забарона, 19. пісьмо, 21. прытулак, месца жыхарства, 24. ураджэнец адной мясцовасці, 25. скрытая насмешка, 26. быў ім Дон Кіхот, 27. жыхар Ломжы, 28. мінерал з групы сілікатаў, таксама каштоўны камень.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 20 нумара**

**Гарызантальна:** Карскі, Атакама, аймара, „Трабант", алапат, ядазуб, Остэндэ, „Кармэн", закраса, разява.

**Вертыкальна:** партыя, дарада, Макалу, каата, румба, карта, латэкс, пінжак, трэнаж, джала, зямля, бонза.